

**Перадавая работніца Віцебскага завода заточных станкоў, фрэзероўшчыца Ліля Альшанікава.**

Фото А. Дзітлава.



**Мінскі шарыкападшыпнікавы завод.** На здымку: **лепшая сартыроўшчыца зборачнага цэха комсамолка Валянціна Сцяпанава.**
Фото О. Кнорынга.



Шосты год пайшоў з таго часу, як гэтыя дзяўчаты, сарамліва ўвайшоўшы ў памяшканне Мінскага дзяржаўнага медыцынскага інстытута, папрасілі паказаць ім пакой прыёмнай камісіі. Нямала ўпартасці было праяўлена за гэтыя гады. Не раз узнікалі сумненні: «А ці справімся?..» Але ад лекцыі да лекцыі, разам з новымі ведамі прыходзіла ўсё больш і больш сілы, смеласці і жадання дзейнічаць. Без гэтага нельга быць хірургам!

І вось прафесар гаворыць пра іх: «Без пяці хвілін урачы!» І дзеліцца з імі, як роўны з роўнымі, усім тым, што і для яго з'яўляецца новым.

На здымку: група студэнтаў VI курса Мінскага дзяржаўнага медыцынскага інстытута, якія працуюць субардынатарамі, гутараць з прафесарам. Злева направа: **В. Панасюк, Т. Жукава, Н. Атрош, Г. Егорава, А. Власава і Н. П. Маслаў.**







**У сакавіку гэтага года спаўняецца 480 год з дня нараджэння італьянскага скульптара і жывапісца, паэта і архітэктара Мікельанджэла Буанароцці.**

**Апошні і разам з тым найярчэйшы прадстаўнік мастацкай культуры эпохі Адраджэння, Мікельанджэла стварыў цэлы шэраг геніяльных твораў, якія ўвайшлі ў залаты фонд мастацкай сусветнай спадчыны. Пластычна дасканалыя, поўныя тытанічнай сілы і напружанасці вобразы яго твораў прасякнуты перш за ўсё глыбокім гуманізмам, сцверджаннем сілы і бязмежных творчых магчымасцей чалавека.**

На здымках: уверсе — **фрагменты роспісу столі Сікстінскай капэлы ў Ватыкане ў Рыме, 1508—1512 гг.** Злева — **«Прарок Ірэмія».** Справа — галава **прарока Ісайі.** Унізе злева — **«Маісей», мармур, царква Сан П'етро ін Вінколі, Рым, 1515—1516 г.** Справа — **«Раб», каля 1513 г., Луўр, Парыж.**





**З вялікім уздымам успрыняў савецкі народ пастанову студзеньскага Пленума ЦК КПСС аб павелічэнні вытворчасці прадуктаў жывёлагадоўлі. Моладзь ганарыцца сваім удзелам у выкананні гэтай грандыёзнай праграмы. «...нягледзячы на цяжкасці, жадаем працаваць так, каб з гонарам маглі ўспомніць сваю маладосць», — пісаў Цэнтральнаму Камітэту КПСС камсамолец Міхаіл Пакаўчук у пісьме, зачытаным на Пленуме таварышам Н. С. Хрушчовым.**

**Перад камсамольцамі і моладдзю Беларусі паўстала задача далейшага пашырэння пасеўных плошчаў пад кукурузу і павышэння яе ўраджайнасці. У мінулым годзе быў зроблены першы крок у гэтым напрамку. Н. С. Хрушчоў адзначыў, што «ў першы год масавага прасоўвання кукурузы ў цэнтральныя і поўночныя раёны не толькі асобныя калгасы, а нават цэлыя раёны і вобласці атрымалі высокія ўраджаі кукурузы Так у Гродзенскай вобласці Беларускай ССР 295 калгасаў атрымалі ўраджай зялёнай масы з пачаткамі кукурузы ад 300 да 600 і вышэй цэнтнераў з гектара».**

**Камсамольскае звяно калгаса «Новы шлях» Гродзенскага раёна атрымала ў сярэднім па 920 цэнтнераў кукурузы на сілас. Звяно камсамолкі Любы Бельскай з калгаса імя Молатава Брагінскага раёна Гомельскай вобласці сабрала з кожнага гектара свайго дванаццацігектарнага ўчастка па 1150 цэнтнераў зялёнай масы кукурузы.**

**Народная прыказка гаворыць, што цяжкі толькі пачатак. Але мы бачым, што і пачатак не абавязкова павінен быць з няўдачай. Каштоўнейшы вопыт перадавікоў вырошчвання кукурузы павінен быць падхоплены ва ўсіх калгасах і саўгасах рэспублікі. Справа нашага гонару — дасягнуць таго, каб пры наступным абмеркаванні гэтага пытання ў ЦК КПСС дакладчык змог прывесці яшчэ больш яркія прыклады з практыкі беларускіх жывёлаводаў і паляводаў.**

На здымках — **перадавікі вырошчвання кукурузы:** уверсе: **камсамолка Люба Бельская (злева) і Ева Міхаленка (калгас імя Молатава Хойніцкага раёна Гомельскай вобласці).** Унізе: **група камсамольцаў калгаса «Новы шлях» Гродзенскага раёна ў час гутаркі ў Міністэрстве сельскай гаспадаркі БССР:** (злева направа) **намеснік міністра І. С. Малочка, галоўны аграном упраўлення збожжавых і кармавых культур І. М. Барысевіч, звеннявая Яўгенія Бракала, сакратар камсамольскай арганізацыі калгаса аграном Аляксандр Шорац, галоўны аграном упраўлення сельскагаспадарчай прапаганды Ф. Г. Ляўша і звеннявая Раіса Яраневіч.**

Тэкст і фото А. Дзітлава.



**Хутка вясна. У канторы калгаса імя Варашылава Арэхаўскага раёна Віцебскай вобласці сабралася група ільнаводаў. Звеннявая, дэпутат Вярхоўнага Совета СССР Анна Міронаўна Каваленка абмяркоўвае з моладдзю план веснавых палявых работ.** На здымку: (злева направа) **Міля Рыжык, Ніна Пудоўская, А. М. Каваленка, Надзя Рыжык і Ніна Рыжык.**

Фото А. Дзітлава.

Пролетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

# МАЛАДОСЦЬ

Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі.

Газетна-часопіснае выдавецтва Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР. Мінск.

Год выдання III.

№ 3(24).

Сакавік,

1955.

# БЕЛАРУСКАЯ МОЛАДЗЬ У КРЭМЛІ

Кожны, хто прыязджае ў сталіцу нашай Радзімы — Маскву, марыць пабываць у Крэмлі, пазнаёміцца з багацейшымі скарбамі крэмлёўскіх музеяў, з непаўторна прыгожымі па сваёй архітэктуры і ўнутранаму аздабленню палацамі.

У сталіцу Радзімы прыехалі прадстаўнікі калектываў мастацкай самадзейнасці навучальных устаноў працоўных рэзерваў нашай рэспублікі, каб прадэманстраваць на ўсесаюзным аглядзе мастацтва танца, спеваў, ігры на музычных інструментах.

Юнакам і дзяўчатам, якія вызначыліся на рэспубліканскім аглядзе самадзейнасці сваім высокім майстэрствам, ужо даваялося адзін раз быць у Маскве. Мінулым летам яны выступалі на Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўцы. Але тады ім не ўдалося пабыць у Крэмлі. Толькі на гэты раз, у другі прыезд, ажыццявілася іх запаветная мара — яны былі запрошаны ў Крэмль на баль.

Свята пачалося, як толькі юнакі і дзяўчаты мінавалі Спаскія вароты Крэмля. Вось яны, крэмлёўскія палацы, бачаныя хіба толькі ў кіно ды на малюнках! А вунь узоры майстэрства рускіх умельцаў — цар-звон і цар-пушка.

У гэты вечар многа цудоўнага пабачыла моладзь у Крэмлі. З захапленнем аглядалі юнакі і дзяўчаты распісныя церамы, урачыстыя залы, дзе адбываліся многія гістарычна важныя падзеі, Гранавітую палату, Святыя сені, Уладзімірскую, Георгіеўскую залы, запоўненыя мноствам унікальных каштоўнасцей залы Аружэйнай палаты.

У бляску самацветаў, якія ўпрыгожваюць баявую зброю і вопратку воінаў, у зіхценні золата, дыяментаў, у шматлікіх падарунках іншаземных дзяржаў паўставала перад наведвальнікамі гісторыя росту магутнасці нашай Радзімы.

Але вось скончылася цудоўнае падарожжа па незлічоных залах музеяў. Юнакі і дзяўчаты трапляюць з мінулага ў сённяшні дзень... У залітых яркім святлом залах Вялікага крэмлёўскага палаца грыміць музыка. У віхры танца кружыцца моладзь.

Здаецца, вялізная вясёлка ўстала над заламі — такое ўражанне ствараюць колеры нацыянальнай вопраткі. Дзяўчаты з Расійскай Федэрацыі, Беларусі і Украіны ў вышываных нацыянальнымі ўзорамі касцюмах, юнакі — пасланцы моладзі Каўказа ў сваіх высокіх шапках. Сарафаны, бешметы, чаркескі. Прадстаўнікі нашай мнoганацыянальнай краіны сабраліся сюды, у Крэмль, на радаснае свята маладосці.

У той час, як аматары танцаў весяліліся ў Гранавітай палаце, у Владзімірскай зале пад кіраўніцтвам масавікоў адбываліся гульні, моладзь удзельнічала ў атракцыёнах.

Неўзабаве ўсе ўдзельнікі балю запоўнілі Георгіеўскую залу. Тут пачынаўся канцэрт. Вялікай і differentiated рознастайнай была яго праграма. Разам з майстрамі мастацтва сталіцы выступалі юныя ўдзельнікі самадзейнасці працоўных рэзерваў. Цёпла сустрэлі гледачы выступленне самадзейнага танцавальнага калектыву, які складаўся з выхаванцаў рамесных вучылішч №№ 2, 3, 5 і тэхнікума працоўных рэзерваў горада Мінска.

... Баль навучэнцаў вучылішч і школ працоўных рэзерваў, у якім прынялі ўдзел прадстаўнікі моладзі ўсіх саюзных рэспублік, з'явіўся яркім, хвалюючым выражэннем вялікай і непарушнай дружбы народаў нашай вялікай Радзімы, глыбокіх клопатаў Комуністычнай партыі і Совецкага ўрада аб моладзі, аб культурным росце і развіцці яе талентаў.

**Р. СЯМЁНАЎ.**







На здымках: зверху ўніз: **1. Навучэнцы рамесных вучылішч і школ ФЗН у Крэмлі. 2. Прадстаўнікі розных рэспублік** (злева направа) **Лена Сабалеўская (Беларусь), Гражына Вегерэйтэ (Літва), Грыгоры Малькоў (РСФСР), Альва Аветысян (Арменія), Іна Юрасава (Беларусь), Юрыс Калванс (Латвія) і Сусана Саакян (Арменія). 3. Навучэнцы беларускіх рамесных вучылішч і школ ФЗН выконваюць у Крэмлі танец «Мяцеліца».**

Фото Я. Халіпа.

Апавяданні пра нашых сучаснікаў




Георгі ШЧАРБАТАЎ

I

Заняткі заатэхнічных курсаў закончыліся позна. Работнікі ферм яшчэ трохі пасядзелі, пагаманілі. Толькі Соня Феськова сядзела маўклівая, ціхая. У шэрых вачах дзяўчыны заатэхнік заўважыў нейкае засмучэнне. Ён падышоў да яе і запытаў:

— Чаго гэта ты, Соня?

Смуглявыя шчокі дзяўчыны зачырванеліся. Яна падняла вочы на заатэхніка і ціха сказала:

— Цяжка мне, Аркадзь Восіпавіч.

— Не ладзіцца што-небудзь?

— Прыдзіце раніцай на ферму, пабачыце, — зноў гэткім-жа ціхім голасам адказала Соня і выйшла з канцылярыі.

У полі гуляў моцны пранозлівы вецер. Ён кідаў у твар калючы снег, збіваў з дарогі, дзіка скуголіў і завываў. Здавалася, страшна было ступаць у гэтую белую муць, але Соня хутка крочыла палявой дарогай да сваёй вёскі. «Гэта мы ўсё пераадолеем — і гэтую завіруху, і заатэхнію вывучым, — думала дзяўчына. — Цяжэй вось людзей выхоўваць». І зноў маркота ахапіла яе.

Настрой яе ўзняўся толькі дома, калі яна распранулася і ўбачыла на стале пісьмо са знаёмым почыркам. Пісала свінарка калгаса імя Беларускай Ваеннай Акругі Любанскага раёна Ядвіга Бакан, з якой Соня пасябравала ў Маскве, на XII Усесаюзным з'ездзе камсамола. «Не забывае, родная», — падумала Соня, і ў яе неяк пацяплела на душы. Нахлынулі светлыя, як майскі дзень, успаміны.

З'езд адбываўся ў Крэмлі. Соня Феськова і Ядвіга Бакан, як зачараваныя, хадзілі па саборах Крэмля, любаваліся харастсвом і веліччу крэмлёўскіх палацаў, і ў думках іх нараджалася шчырае абяцанне партыі, роднаму камсамолу — працаваць яшчэ лепш, аддаць усе свае сілы на шчасце народа. Дзяўчаты нібы сталі на галаву вышэй пасля гэтага з'езду. Яны пабачылі тут кіраўнікоў партыі і ўрада, прынялі важныя рашэнні, пабывалі ў лепшых тэатрах, атрымалі падарункі. Ужо вяртаючыся дадому, яны дамовіліся пісаць адна другой лісты, дзяліцца навінамі, раіцца.

Соня прачытала ліст і задумалася. Усё добра ідзе ў жыцці Ядвігі Бакан. Атрымала на працадні многа збожжа, многа грошай, купіла новую сукенку, туфлі. Малайчына, Ядзя! Але ёсць аб чым расказаць сваёй сяброўцы і ёй, Соні Феськовай. Многа часу прайшло з таго дня, як яна паслала Ядзі апошняе пісьмо, многа і змен адбылося ў жыцці дзяўчыны.

...Ішоў камсамольскі сход. Моладзь абмяркоўвала пытанне аб падрыхтоўцы зімоўкі для жывёлы. Тут-жа вылучылі камсамольскую рэйдавую брыгаду для праверкі, як фермы падрыхтаваліся да зімы, як выдаткоўваюцца там кармы, як выконваецца рацыён кармлення. Узначаліць рэйдавую брыгаду было даручана Соні Феськовай. У адзін з восеньскіх дзён камсамольцы пачалі абход ферм. Яшчэ на золку група юнакоў і дзяўчат пастукала ў кормакухню свінафермы № 1, якой загадвае Ільля Авер'янавіч Каршакоў.

— Уваходзьце, — пачуўся басавіты голас.

У кормакухні было цёпла, з катлоў валіла пара. Соня ўбачыла, як дружна завіхаліся жанчыны, рыхтуючы свінням корм, як Ільля Авер'янавіч уважліва сачыў, каб былі правільна складзены рацыёны. Камсамольцы ведалі, што Каршакоў з'яўляецца сакратаром калгаснай партыйнай арганізацыі і, сустрэўшы яго, крыху сумеліся. Але ён падбадзёрыў:

— Правільна робіце. Абыйдзіце і самым дэталёвым чынам праверце ўсе фермы. Вынікі абмяркуем на праўленні.

Камсамольцы лягчэй уздыхнулі. Цяпер яны ішлі ад фермы да фермы, усё падрабязна аглядалі, занатоўвалі ў свае блакноты. На свінаферму ў вёсцы Нікалаеўка яны прышлі ў сем гадзін раніцы. Але ні аднаго работніка тут яшчэ не было. Соня Феськова паспрабавала зайсці на кормакухню: яна была замкнута. Брыгада пачала чакаць. Толькі ў восем гадзін з'явіліся свінаркі, а загадчык фермы Васіль Вавулаў так і не прышоў.

— А дзе-ж ваш загадчык? — спытала Соня ў жанчын.

— А куды яму спяшацца? Хіба ён вас не бачыў? — недружалюбна адказала адна з калгасніц.

— А расклад кармлення вы ведаеце?

— Пытайцеся ў загадчыка...

Адзін з членаў брыгады пабег на кватэру к Вавулаву, і хутка заспаны загадчык з'явіўся на ферму. Ленаватымі рухамі ён паказваў раскіданыя кармы, доўга шукаў накладных, ды так і не знайшоў, а ў свінарнік наогул адмовіўся пайсці. «Ідзіце, калі хочаце, паглядзіце», — сказаў ён, махнуўшы рукой. Камсамольцаў уразіў беспарадак на ферме. Усюды было брудна, пад нагамі валяўся рознастайны корм, паламаныя кармушкі, паржавелыя вёдры. Брыгада запісала ўсё гэта, але вывадаў рабіць не спяшалася. Феськова вырашыла яшчэ раз праверыць гэтую ферму. Назаўтра тут паўтарылася тое-ж самае.

Неўзабаве Соня дакладвала на праўленні аб выніках рэйдавай брыгады. Праўленні ў калгасе «Комінтэрн» заўсёды бываюць многалюднымі, а на гэты раз канцылярыя была паўнюткай. Калі старшыня калгаса Ільля Васільевіч Сяргееў сказаў, што слова мае камсамолка Соня Феськова, погляды ўсіх скіраваліся на гэтую невысокую, чарнявую дзяўчыну, аб якой толькі і ведалі, што яна лепшая свінарка ў калгасе. Дзяўчына спакойна, нетаропка расказала аб наведванні ферм буйнай рагатай жывёлы, конефермы, свінагадоўчай фермы № 1, але калі справа дайшла да фермы ў вёсцы Нікалаеўка, шчокі яе запунцавелі, а ў голасе пачулася хваляванне і ўстрывожанасць:

— Гэта проста ганьба ўсім нам, што ў Нікалаеўцы ферма знаходзіцца ў такім запушчаным стане. Загадчык фермы Вавулаў рэдка бывае на ферме, не выконвае ўказанняў заатэхніка. Работнікі, калі хто ўздумае, тады і прыходзяць на працу...

— Ведаю, ты даўно ўжо меціш на маё месца, — перабіў яе Вавулаў.

— У мяне і сваёй работы хапае, — адказала Соня і прадаўжала: — Рэйдавая камсамольская брыгада лічыць, што Вавулаў не можа далей кіраваць фермай.

Яе падтрымалі другія калгаснікі. Яны напомнілі Вавулаву, што ён ужо не раз кляўся перад праўленнем наладзіць работу, але ўсё застаецца па-ранейшаму: загадчык больш заглядвае ў пляшку, чым на ферму.

Праўленне вызваліла Вавулава ад абавязкаў загадчыка. Тады ўстаў сакратар партыйнай арганізацыі Ільля Авер'янавіч Каршакоў і сказаў:

— Тут Вавулаў дакараў Соню, што яна дамагаецца яго месца. Скажу так: зусім не дамагаецца, але куды Феськову ні пастаў, яна будзе працаваць сумленна, па-камсамольску, не тое, што Вавулаў. Я прапаную для карысці справы назначыць загадчыкам свінафермы ў Нікалаеўцы Феськову.

Соня не чакала такога павароту справы і паспрабавала адмаўляцца, але яе не слухалі. Праўленне адзінадушна зацвердзіла камсамолку загадчыцай фермы.

— Бярыся за справу, Соня, дапамажам, — добразычліва сказаў ёй Каршакоў на развітанне.

Лёгка было сказаць: «бярыся за справу». Пакуль Соня адказвала толькі сама за сябе, за сваю работу, яна ведала, што ніколі не будзе чырванець перад праўленнем. А тут была цэлая ферма, усё трэба прадугледзець. Хіба адна ўправішся? Яна ўспомніла аб парадках, якія здаўна ўстанавіліся на гэтай ферме, і незадаволена паморшчылася. «Цяжка мне будзе



Соня Феськова рыхтуецца да заняткаў.

знайсці агульную мову з свінаркамі», — падумала яна.

Гэтую ноч дзяўчына спала неспакойна. Хоць яна і прывыкла рана ўставаць, але ёй здавалася, што яна можа праспаць ранішні час кармлення свіней і асароміцца перад людзьмі. На вуліцы яшчэ быў густы змрок, калі Соня выйшла з дому і накіравалася на ферму. Яе ветліва сустрэў стары вартавы.

— Раненька, дачушка, — сказаў ён. — Тут не прывыклі так працаваць.

Ходзікі ў кормакухні паказвалі палову шостай гадзіны. Дзяўчына намыла некалькі вёдзер бульбы, засыпала ў катлы і падпаліла ў печы. Хутка бульба зварылася, трэба было рыхтаваць па рацыёну корм для свіней, а свінарак усё не было. Сэрца дзяўчыны агарнула крыўда. Крыўдна было за людзей, якія мелі ў калгасе поўны дастатак, а свае абавязкі выконвалі нядобрасумленна. «Але як-жа мне да іх паставіцца? — разважала Соня. — Трэба будзе спачатку пасароміць, пагаварыць па-добраму».

У восем гадзін прышлі свінаркі.

— Бабанькі, ды тут ужо ўсё падрыхтавана. Вось гэта загадчык! — з штучнай весялосцю ўсклікнула Ефрасіння Чэпікава.

— У наступны раз не збіраюся за вас працаваць, — раззлавалася Соня. — Давайце дамовімся: з заўтрашняга дня прыходзіць на ферму к шасці гадзінам.

— Ого, грозны які начальнік! — заўважыла Соня Цепа. — Я і дома свіней ніколі ў такую рань не карміла.

— Дома як сабе хочаш, а ў калгасе ёсць расклад, зацверджаны праўленнем, — сказала комсамолка.

Размова спынілася, але Феськова не была ёю задаволена. «Не выйшла душэўнай гутаркі. Справа не пойдзе». І яна не памылілася. Свінаркі, як і раней, прыходзілі ў розны час і распарадак кармлення не выконваўся.

У гэты час Соня Феськова атрымала тэлеграму з Мінска. Цэнтральны Камітэт комсамола рэспублікі запрашаў яе на рэспубліканскую нараду маладых жывёлаводаў і прасіў выступіць з расказам аб вопыце сваёй работы.

Некалькі вечароў сядзела Феськова над сшыткам, абдумвала, як лепш расказаць аб гэтым вопыце.

І вось яна — на трыбуне нарады. Дзяўчына не прывыкла гаварыць па пісанаму, таму адклала ўбок сшытак і пачала спакойным голасам, нібы сваім сябрам, проста расказваць аб тым, як яна тры гады таму назад прышла на ферму, як ёй было цяжка ў першыя месяцы, як яна паступова авалодвала новаю справай.

— У мінулым годзе за два апаросы атрымала і вырасціла ад кожнай свінаматкі па 19 парасят, з'яўляюся ўдзельніцай Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўкі, — расказвала Феськова. — Сёлета за адзін апарос кожная свінаматка, якую даглядаю, прывяла па 10 парасят. За другі апарос будзе не менш.

Выступалі другія маладыя работнікі жывёлагадоўлі, расказвалі аб тым, як комсамольцы выконваюць рашэнні вераснёўскага Пленума ЦК КПСС, як працуюць на фермах, дабіваюцца высокіх паказчыкаў.

Узрадаваная, вярталася ў калгас Соня Феськова. «І чаму я не дадумалася пагаварыць са сваімі комсамольцамі. Гэта-ж сапраўды іх справа», — думала яна. Яна ўжо меркавала, хто з комсамольцаў пойдзе працаваць на фермы, і вырашыла з імі адразу пагутарыць.

...Цяпер, гледзячы на ліст Ядвігі Бакан, яна падумала: «Эх, Ядзя, Ядвіська, хіба пра ўсё гэта можна напісаць у кароткім лісце! Кніга патрэбна, каб пра ўсё расказаць».

## II

Сярэдняга росту чалавек, крыху накульгваючы, таропка крочыў па вуліцы. Ранішні мароз, відаць, моцна шчыпаў яго за шчокі, бо ён час-ад-часу паціраў іх рукавіцамі. Чалавек дайшоў да высокага дома з палісаднікам і пастукаў у акно. Ніхто не абазваўся. Тады ён пастукаў больш настойліва.

Пачуліся нейчыя крокі і жаночы голас спытаў:

— Хто там?

— Соня дома?

Жанчына, відаць, прыглядзелася праз шыбу і, пазнаўшы чалавека, адказала:

— Няма, Аркадзь Восіпавіч. Пайшла на ферму.

Якірэвіч глянуў на гадзіннік. Было палова шостай. «Калі яна толькі спіць, гэтая дзяўчына», — з павагай падумаў зоатэхнік пра Феськову.

На кормакухні весела патрэскваў агонь пад катламі. Побач у канторцы сядзела Соня і пры святле лямпы чытала нейкую кнігу. Якірэвіч прывітаўся з ёю і запытаў:

— Адна?

— Чаму адна? — усміхнулася дзяўчына. — Вось з кнігай.

Аркадзь Восіпавіч узяў кнігу. Гэта быў раман Віліса Лаціса «Бяскрылыя птушкі». На тытульнай старонцы яго зоатэхнік прачытаў надпіс: «Дэлегату XII Усесаюзнага з'езду Ленінскага комсамола, лепшай свінарцы Беларусі т. Феськовай С. С. ад ЦК ВЛКСМ». Ён пагартаў кнігу, аб нечым думаючы, і зноў спытаў:

— Няўжо так кожную раніцу ўсё адна робіш? — і ён кіўнуў на катлы, запоўненыя бульбай.

І Соня не вытрымала. У яе раптам пырснулі слёзы, а твар скрывіўся ў нейкай хваравітай грымасе. Аркадзь Восіпавіч сумеўся ад неспадзеўкі.

— Ды што ты, Соня, — пачаў ён супакойваць дзяўчыну. — Нашто гэтыя слёзы...

А яна і сапраўды, саромячыся сваёй слабасці, хуценька выцерла хусцінкай вочы і папрасіла:

— Прабачце, Аркадзь Восіпавіч, — і, супакоіўшыся, расказала аб усім, што ў яе набалела на душы. Зоатэхнік слухаў дзяўчыну і ўсё больш дзівіўся яе напорыстасці ў працы, яе незвычайнай вынослівасці, яе вялікай любві да свайго калгаса. Аказалася, што загадчыца фермы, па-сутнасці, выконвае работу трох чалавек, што свінаркі не прыходзяць у час на ферму.

— Чаго-ж ты, дзівачка, маўчала? — з дакорам сказаў Якірэвіч.

— Думала, апамятаюцца, сорамна стане.

— Няма чаго ўгаварваць. Не хочуць як належыць працаваць, другія прыдуць, — заўважыў зоатэхнік.

— Я ўжо гаварыла з некаторымі комсамолкамі — згодны.

Аркадзь Восіпавіч запісаў прозвішчы свінарак, якія тут працавалі, і паабяцаў, што бліжэйшае праўленне вызваліць іх ад работы на ферме.

Вечарам Соня забегла да комсамолкі Надзежды Перапеткінай. Гэта дзяўчына неяк выказвала сваё жаданне працаваць на ферме. Дзяўчаты разгаварыліся.

— Чула, комсамольскі сход у суботу, — паведаміла Надзя.

— Ведаю, — сказала Соня. — Абмяркуем пастанову пленума ЦК комсамола аб пасылцы комсамольцаў на фермы, — і звярнулася да Надзежды: — А ты чаго марудзіш?

— Страшна неяк, Сонечка, — прызналася дзяўчына. — Ці спраўлюся?

Феськова па сабе ведала гэтае адчуванне: новая работа страшыць чалавека сваёй невядомасцю. Яна супакоіла дзяўчыну, расказала аб вучобе на зоатэхнічных курсах. Дамовіліся, што Надзежда Перапеткіна выступіць на комсамольскім сходзе з заклікам да моладзі калгаса пайсці працаваць на фермы.

У калгасе «Комінтэрн» вялікая комсамольская арганізацыя. На сход прышлі юнакі і дзяўчаты з многіх вёсак, што ўваходзяць у склад калгаса. На парадку дня было два пытанні: перавыбары камітэта комсамола і абмеркаванне пастановы пленума ЦК комсамола Беларусі аб пасылцы 10 тысяч комсамольцаў на фермы. Калі



Соня Феськова на ферме.

сакратар комсамольскай арганізацыі зрабіў справаздачны даклад і многа комсамольцаў выступіла ў спрэчках, сход пачаў выбіраць новы камітэт. З усіх бакоў залы паляцела:

— Феськову!

— Феськову!

Соня Феськова была абрана сакратаром комсамольскай арганізацыі.

Бурна праходзіла абмеркаванне другога пытання. Выступленне Надзежды Перапеткінай падтрымалі многія комсамольцы. Соня бачыла, якой блізкай справай лічылі комсамольцы ўздым жывёлагадоўлі свайго калгаса.

— Наш калгас прыгарадны, — усхвалявана гаварыла Надзежда Пракопчык. — Мы павінны даць гораду больш малака, мяса, масла. Гэта наш комсамольскі абавязак узняць прадуктыўнасць жывёлы, зрабіць фермы яшчэ больш прыбытковымі. У мінулым годзе калгас ад адной свінагадоўлі атрымаў мільён рублёў прыбытку. А хіба гэта мяжа?

Дванаццаць комсамольцаў выказалі жаданне стаць жывёлаводамі. Праўленне калгаса задаволіла просьбу комсамольскай арганізацыі.

Комсамольцы прышлі і на ферму, дзе працавала Феськова. Соня адразу павесялела. Яна ведала, што прышлі сапраўдныя памочніцы. Феськова расказала аб парадку кармлення свіней, аб рацыёне, падзадорыла дзяўчат, абнадзеіла. Ёй было прасцей размаўляць са сваімі аднагодкамі, з комсамолкамі. Больш за ўсё Соня клапацілася аб тым, каб узняць іх зоатэхнічны ўзровень, бо кожнай свінарцы трэба многа ведаць. Яна знайшла ў сваёй бібліятэцы брашуры кандыдата сельскагаспадарчых навук Е. Д. Нагорскай «Соўгас «Зарэчча» ў барацьбе за высокапрадуктыўную жывёлагадоўлю» і А. П. Сафроненкі «Свінагадоўчая ферма калгаса «Рассвет» і аддала іх дзяўчатам. Свінаркі пачалі наведваць і зоатэхнічныя курсы.

Справы на ферме наладжваліся. Цяпер кожнай раніцы роўна ў вызначаны час яна сустракала ў кормакухні дзяўчат, якія скідалі кажушкі і руплва браліся за працу. Прыемна было прайсціся па ферме. Стараннныя рукі комсамолак усё прывялі ў парадак.

### III

Соня сядзела ў сваім пакоі і абдумвала ліст да сяброўкі. Прайшло нямала часу, як яна атрымала пісьмо ад Ядвігі Бакан, адбылося многа падзей у яе жыцці, але аб усім не хацелася пісаць. Трэба было выбраць самае важнае, самае цікавае, — і дзяўчына перабірала ў саваёй памяці дзень за днём. Нядаўна яна выступала на раённай комсамольскай канферэнцыі, крытыкавала і райком комсамола, і Таварыства па пашырэнню палітычных і навуковых ведаў, і сваю партыйную арганізацыю, якія мала клапоцяцца аб культурна-масавай рабоце сярод жывёлаводаў. «Працуем позна, ніколі ў кіно не трапіш, чырвоны куток, які быў на ферме, і той забралі пад кватэру, — думала Феськова. — Але хіба гэта цікава сяброўцы?»

У пакой ускочыла ружовашчокая задаволеная Надзежда Перапеткіна.

— А ў мяне навіна! — радасна выгукнула яна.

— Якая?

— «Машка» апарасілася. Пятнаццаць штук. Усе такія слаўненькія...



Соня Феськова (крайняя справа) у Крэмлі.

— Добра, — цёпла паглядзеўшы на сяброўку, сказала Феськова. — Глядзі цяпер, каб усе цэлыя былі.

Сэрца яе запоўнілася радасцю за сваіх памочнікаў. Яна рашыла: «Вось пра каго трэба напісаць сяброўцы — пра сваіх таварышаў, маладых жывёлаводаў, якія моцна палюбілі сваю працу».

Яна ўзяла ручку і пачала пісаць.

---

Артур ВОЛЬСКІ

## ПЕСНІ МАНТАНА

Ніколі вы не бачылі Парыжа?  
І мне бываць не выпадала там.  
Але ён стаў мне сёння значна бліжай, —  
Я слухаў песні, што спяваў Мантан.  
Яны прайшлі ўсе межы па эфіру,  
Прабіўшыся скрозь цемру і туман.  
То смелы голас абаронцаў міру,  
То мужны голас слаўных парыжан.  
І я ўявіў і спевака, і сцэну,  
І залу, дзе не знатныя паны  
Сабраліся,  
а людзі, што сумленна  
Жадаюць жыць — без крыўды, без маны.  
Нямала ў нас  
між іх  
сяброў харошых:  
І францірэр — герой былых атак,  
І хлопчык, што падобны да Гаўроша,  
І закаханы ў дзяўчыну юнак...  
Раптоўна песні сэрца мне кранулі  
Пякучым болем  
ад тае бяды,  
Што зноў асфальт і брук парыжскіх вуліц  
Чужынскія забрудзілі сляды.  
Той спеў  
не пад натуру  
мендэс-франсам.  
Іх непакоіць і трывожыць ён.  
Што ім Парыж!  
Гатовы дзесяць Францый  
Яны прадаць, пачуўшы срэбра звон.  
А вось ужо не болем, а пагрозай  
Мантанаў голас гучна зазвінеў, —  
Надыйдзе час, калі і боль, і слёзы  
Перарастуць у нястрыманы гнеў.  
Я ведаю, што явай стануць мары.  
Французскі сябра скажа мне:  
— Глядзі-ж  
На слаўны горад першых комунараў,  
На песенны і вогненны Парыж!..  
Не, я не быў ніколі у Парыжы,  
Але сяброў нямала маю там.  
Мне стаў Парыж і даражэй і бліжай,  
Калі я слухаў, як спяваў Мантан.

Анатоль ВЯРЦІНСКІ

## АДЫХОД ЛЕТА

Над галавою сінява плыве.  
Яшчэ зусім па-летняму бялеюць  
Аблокі ў гэтай яснай сіняве,  
І цень густы яшчэ пакрыў алею.

Ды набліжэнне іншае пары  
Заўважыць можна ў гэтую часіну.  
Глядзіш — і раптам бачыш: угары  
Пранесла лёгкім ветрам павуціну.

На фоне светлым, сонечным, яна  
Мільгнула сумнаватаю прыкметай.  
Табе здалося — гэта сівізна  
Гарачай працай стомленага лета.

Ды ціхае і светлае яно,  
Хоць дні ягоныя ужо на схіле, —  
Бо да гадзіны гэтай усёадно  
Зрабіць паспела, што было па сіле.

Ты чуеш, як звіняць дзесь галасы,  
То палявой бясконцаю сцяжынкай,  
Па-над якой звісалі каласы,  
Ідуць у вёску з песнямі дажынкі.

Сягоння нездарма яны гучаць  
Такім напевам, радасным, прыгожым, —  
Напоўнены ўсе свірны ў гэты час  
Духмяным, залацістым збожжам.

Сад не шуміць, бо не ўзняць галін:  
Яны сагнуты цяжкімі пладамі...  
Даспелі гронкі маладых рабін,  
Палаюць чырванню паміж лістамі.

І прад нязмерным выспеўшым дабром  
Прад гэтым збожжам, садам ды рабінай  
Не так і сумны летніх дзён надлом,  
Адзначаны асенняй павуцінай.

# Вялікі прадаўжальнік справы Леніна

5 сакавіка 1953 года перастала біцца палымянае сэрца вернага вучня, вялікага прадаўжальніка неўмiручай справы Леніна — Іосіфа Вісарыёнавіча Сталіна.

Імя Сталіна бясконца дарагое, блізкае савецкім людзям і працоўным усяго свету. Усё сваё свядомае, поўнае кіпучай і страснай энергіі жыццё І. В. Сталін аддаў вялікай справе вызвалення працоўных ад капіталістычнага прыгнёту, справе барацьбы за перамогу камунізма.

Сусветна-гістарычныя перамогі пралетарыята над буржуазіяй непарыўна звязаны з імёнамі Леніна і Сталіна. В. І. Ленін, абапіраючыся на адкрытыя марксізмам законы грамадскага развіцця і творча прымяняючы гэтыя законы, вызначыў канкрэтныя задачы нашай эпохі, паказаў мільёнам прыгнечаных людзей шляхі да вызвалення ад капіталістычнага рабства.

І. В. Сталін з першых-жа крокаў сваёй рэвалюцыйнай дзейнасці пранікся бязмежнай верай у рэвалюцыйны геній Леніна, убачыў у ім правадыра і настаўніка баявой марксісцкай партыі, кіраўніка вышэйшага тыпу, горнага арла, не ведаючага страху ў барацьбе, які смела вёў нашу партыю ўперад па рэвалюцыйным шляху. Ён заўсёды лічыў для сябе вышэйшым гонарам і сэнсам усяго свайго жыцця быць дастойным вучнем Леніна. «Што датычыць мяне, — гаварыў І. В. Сталін, — то я толькі вучань Леніна і мэта майго жыцця — быць дастойным яго вучнем».

Вялікі геній пралетарскай рэвалюцыі, В. І. Ленін высока ўзняў сцяг бязлітаснай барацьбы з усімі, хто імкнуўся сказіць марксізм. Ён не толькі адстаяў чыстату вучэння заснавальнікаў навуковага камунізма, але і творча развіў яго, філасофскі абагуліў усё новае, што даў рэвалюцыйны рух пралетарыята.

У жорсткай барацьбе з міжнародным і рускім апартунізмам В. І. Ленін распрацаваў ідэалагічныя, арганізацыйныя, тактычныя і тэарэтычныя асновы марксісцкай партыі і выхаваў яе як рэвалюцыйную, баявую марксісцкую партыю — партыю новага тыпу. Верным памочнікам ва ўсёй гэтай гіганцкай рабоце быў І. В. Сталін.

І. В. Сталін, як верны вучань В. І. Леніна, заўсёды рашуча адстойваў чыстату ленінскага вучэння, вёў непрымірымую барацьбу супраць яго ворагаў, паказаў узоры беражлівых адносін да ленінскай спадчыны. У сваіх дакладах на партыйных з'ездах і канферэнцыях, у шматлікіх выступленнях, у вядомых працах «Аб асновах ленінізма», «Да пытанняў ленінізма» і іншых І. В. Сталін раскрыў і паказаў неацанімае значэнне ідэйнага багацця ленінізма. Ён заўсёды падкрэсліваў, што марксізм-ленінізм — не догма, а кіраўніцтва да дзеяння, і штодзённа паказваў прыклад творчага прымянення марксісцка-ленінскай тэорыі, умелага яе выкарыстання пры распрацоўцы і абгрунтаванні палітыкі партыі ў вырашэнні практычных задач соцыялістычнага будаўніцтва. І. В. Сталін заклікаў рабочых і працоўных сялян, нашу моладзь вывучаць працы Леніна, жыць і працаваць па-ленінску.

Ажыццяўляючы ленінскія ўказанні, развітыя далей у працах І. В. Сталіна, у рашэннях партыйных з'ездаў, канферэнцый і пленумаў, Комуністычная партыя ўзняла савецкі народ на барацьбу за індустрыялізацыю краіны і калектывізацыю сельскай гаспадаркі. Дзякуючы самаадданай працы рабочых, сялян і інтэлігенцыі, наша Радзіма ў надзвычай кароткі гістарычны тэрмін ператварылася з адсталай аграрнай краіны ў перадавую магутную індустрыяльна-калгасную дзяржаву, што прывяло, у сваю чаргу, да значнага палепшання матэрыяльнага дабрабыту нашага народа і стварыла неабходныя ўмовы для яго заможнага і культурнага жыцця. У выніку перамогі соцыялізма ў нашай краіне развіліся і ўмацаваліся такія магутныя рухаючыя сілы савецкага грамадства, як маральна-палітычнае адзінства, дружба народаў, савецкі патрыятызм.

Вялікі прадаўжальнік справы Леніна, І. В. Сталін творча развіў вечна жывое, жыццесцвярджальнае марксісцка-ленінскае вучэнне. Яго творы ўзбагацілі ленінскае вучэнне аб марксісцка-ленінскай партыі, аб пралетарскай рэвалюцыі і дыктатуры пралетарыята, аб тактыцы і стратэгіі класавай барацьбы пралетарыята шэрагам новых палажэнняў.

Абагульняючы багаты вопыт соцыялістычнага будаўніцтва ў нашай краіне, І. В. Сталін распрацаваў рад праблем палітычнай эканоміі. Ён канкрэтызаваў і развіў далей палажэнне марксізма-ленінізма аб законамернасці развіцця соцыялістычнага грамадства, аб яго паступовым пераходзе ў вышэйшую фазу — комунізм. Абапіраючыся на зыходныя палажэнні, дадзеныя ў працах Маркса, Энгельса, Леніна, І. В. Сталін сфармуляваў асноўны эканамічны закон соцыялізма і закон планамернага, прапарцыянальнага развіцця народнай гаспадаркі.

І. В. Сталін творча развіў і ўсебакова абгрунтаваў ленінскае палажэнне аб неабходнасці захавання дзяржавы пры комунізме ў выпадку, калі будзе існаваць капіталістычнае акружэнне.

Несакрушальная магутнасць нашай дзяржавы, бясспрэчныя перавагі соцыялістычнага ладу над капіталістычным былі праверааны ў ходзе Вялікай Айчыннай вайны савецкага народа супраць фашысцкіх захопнікаў. У гэтыя суровыя дні Комуністычная партыя выступіла як натхніцель і арганізатар нашага народа, як баявы кіраўнік Узброеных Сіл Савецкага Саюза, на чале якіх па рашэнню партыі і ўрада быў пастаўлены І. В. Сталін. У дні вайны Комуністычная партыя яшчэ больш зраднілася з народам, яшчэ цясней згуртавала яго вакол сябе.

У выніку разгрому гітлераўскай Германіі і імперыялістычнай Японіі ад імперыялістычнай сістэмы адпала рад краін Еўропы і Азіі, якія сталі на шлях пабудовы новага, соцыялістычнага жыцця. Склаўся магутны лагер міру, дэмакратыі і соцыялізма на чале з СССР. Пад кіраўніцтвам Комуністычнай партыі савецкі народ у кароткі тэрмін аднавіў народную гаспадарку краіны і дабіўся новых поспехаў у яе развіцці.

Комуністычная партыя і савецкі ўрад паслядоўна праводзяць міралюбівую знешнюю палітыку, якая грунтуецца на палажэнні ленінізма аб тым, што магчыма працяглае суіснаванне і мірнае спаборніцтва двух сістэм: капіталістычнай і соцыялістычнай. Упершыню думка аб супрацоўніцтве, — указваў І. В. Сталін, — была выказана Леніным. Ленін — наш настаўнік, а мы, савецкія людзі, — вучні Леніна. Мы ніколі не адступалі і не адступім ад указанняў Леніна. Следуючы вучэнню Леніна, І. В. Сталін праяўляў найвялікшыя намаганні, каб адстаяць справу міру ва ўсім свеце.

І. В. Сталін быў блізкім другам і настаўнікам нашай савецкай моладзі. Ён праяўляў нястомныя клопаты аб моладзі, аб фізічным і духоўным развіцці маладых будаўнікоў комуністычнага грамадства. Ён вучыў нашу моладзь не баяцца цяжкасцей, ісці насустрач ім і перамагаць іх па-ленінску.

Комуністычная партыя з'яўляецца кіруючай і накіроўваючай сілай савецкага грамадства, арганізатарам і натхніцелем усіх нашых перамог. Грунтуючыся на марксісцка-ленінскай тэорыі, партыя забяспечвае далейшае магутнае развіццё прадукцыйных сіл краіны, штодзённа клапоціцца аб няўхільным росце прамысловасці і сельскай гаспадаркі, аб паляпшэнні дабрабыту народа. Сіла партыі — у яе цеснай сувязі з народам, які, шчыльна згуртаваўшыся вакол сваёй роднай Комуністычнай партыі, упэўнена ідзе наперад, да комунізма, шлях да якога асветлены незгасальным святлом вечна жывога, жыццесцвярджальнага вучэння Маркса — Энгельса — Леніна—Сталіна.

**Г. БУЛАЦКІ,**
**кандыдат гістарычных навук.**

Мікола ТОНКАВІЧ

## РОДНАЯ ПЕСНЯ

З Масквы радыёстанцый хвалі
Навіну ўсім разнеслі:
Сягоння у Калоннай зале —
Канцэрт народнай песні.

І паліліся над краінай
Мелодыі жывыя.
Літва спявае з Украінай,
Малдавія — з Расіяй.

А дыктар зноўку аб'яўляе,
Натхнёна і ўрачыста,
Што беларускі хор спявае
Аб зорах залацістых.

Мы ля прыёмніка заціхлі.
Заціхлі і у зале.
Здалося мне, што дзесьці ціха
Калоссі зашапталі,

Што дзесьці жнеі-маладзіцы
Аб шчасці песні пелі,
Вада бурліла у крыніцах,
І пушчы зашумелі...

А воплескі, ледзь сціхла песня,
Схіснулі сцены зала,
Як рокат навальніцы веснай...
Мне зразумелым стала,

Што апладыруюць там, мусіць,
Не толькі песні, хору,
А ўсёй любімай Беларусі —
Палям, лясам, азёрам,

Дзе слава партызанскай зброі
Усю вайну грымела,
Дзе ўзгадаваліся героі —
Даватар і Гастэла.

А. АСІПЕНКА

# Лянок

Нарыс



Нюра Варанецкая.

Нюра Варанецкая вярталася дамоў, у далёкую вёску Чудню. У агульным вагоне, дзе яна ехала, было шумна і весела. На кожным прыпынку выходзілі і ўваходзілі пасажыры, неспакойна рассаджваліся па лаўках, на хаду падхопліваючы нястройны лад дарожнай гутаркі. Ні на хвіліну не заціхала размова і ў купэ, дзе сядзела Нюра. Праўда, нюрыны суседзі былі сталымі людзьмі і размаўлялі яны спакваля, з развагай, але нават і гэтае ціхае журчанне размовы досыць надакучыла дзяўчыне. Нюра тужліва глядзела, як прабягаюць за акном палі, пералескі, калгасныя пасёлкі, і ёй хацелася вылезці дзе-небудзь на прыпынку, каб не ехаць дамоў.

Маці, калі выпраўляла Нюру на экзамены, правяла яе да парогу і, паклаўшы руку на плячо, сказала: «Вось і ты, дачушка, у людзі цяпер пойдзеш». Затым яна лёгенька штурхнула яе ў плячо: ідзі. Нюра дайшла да канца вуліцы, агледзілася: маці ўсё яшчэ стаяла, абапёршыся аб касяк дзвярэй, камечачы ў руках канцы белай паркалёвай хусткі. Нюра не бачыла яе твару, але добра ведала, што па ім цякуць буйныя слёзы. Гэтак бывала заўсёды, калі маці праводзіла ў дарогу сваіх дзяцей.

І вось, на табе: яна вяртаецца дадому, вяртаецца не са славай, а з ганьбай. Нюра спрабуе разабрацца, чаму яна не змагла вытрымаць конкурса ў сельскагаспадарчую акадэмію. У школе яна вучылася нядрэнна.

Можа, вінаваты ва ўсім дзядзька Фёдар? Гэта ён, як толькі Нюра закончыла школу, амаль кожную раніцу заходзіў у нюрыну хату і, цярэбячы свой сівы чуб, пытаўся:

— А можа, пляменніца, крыху калгасу падсабіла-б?

— Чаго ты да яе прычапіўся, як сляпы да плоту?! Хай хоць адпачне, а то за кнігамі свету божага не бачыла. Ёй-жа зноў ехаць вучыцца. Сам цэлы век у зямлі корпаешся і яе туды-ж цягнеш...

— Ты, Насця, памаўчы лепей. Зямля, яна ўсіх хлебам корміць. Куды хочаш ідзі, а за зямлю трымайся. Зямля, брат, гэта ўсё...

Маці адмахвалася рукамі:

— Завёў сваё. Цябе паслухаць, дык лепей нічога на свеце няма, як наша сялянская доля. Расці ўсё жыццё хлеб, гадуй жывёлу...

— Яно так і ёсць. Зямля — гэта фундамент, як-бы табе растлумачыць, апора ўсяму, вось што.

Маці нешта бурчэла, а Нюра разам з дзядзькам ішла на работу.

— Ты, Нюра, ужо заадно там і плошчу замераеш. Мне часу не хопіць, мабыць.

Так Нюра і працавала ўвесь час у калгасе. Цяпер, успомніўшы пра дзядзьку Фёдара, дзяўчына з абурэннем адкінула думку, што вінаваты ён. Яна магла і не хадзіць на работу, і ніхто-б ёй не сказаў і слова. Ішла яна на працу сама і ішла з ахвотай. Дзядзька хіба вінаваты ў тым, што здолеў прывіць ёй неўтаймаваную любоў да сельскай гаспадаркі, да зямлі, як ён гаварыў сам. Мусіць, таму і не дужа імкнулася Нюра ў вышэйшую навучальную ўстанову.

Застаўшыся маленькай ад бацькі, Нюра адчула асаблівую прыхільнасць да дзядзькі Фёдара. Яна часта прыбягала да яго, затаіўшы дыханне, слухала пра тое, як ён некалі «скідаў цара», «вымятаў з совецкай зямлі інтэрвентаў», «граміў кулакоў», «ствараў калгасы». У дзядзькі багата было аб чым расказаць. Але асабліва прыгожа ён умеў расказваць пра расліны, пра глебу, пра работу на полі.

Як толькі Нюра падрасла, адразу-ж пачала бегаць на працу ў калгас: палола яравыя, зграбала сена, жала, малаціла. Рабіла яна ўсё лёгка і весела, ва ўсім знаходзіла асалоду. Ёй падабаўся простар палёў, п'яны водыр сенажацяў, сонечна-жоўты колер спелай збажыны. Яна навучылася бачыць за кожнай нават маленькай справай вялікі, пераўтваральны сэнс дзейнасці чалавека. На месцы пустэч і хмызнякоў, што паявіліся за час вайны, хвалявалася мора каласоў. Здавалася, яны кланяюцца сейбіту, дзякуюць яму за клопаты. Магчыма, сама Нюра і не хутка дайшла-б да ўсведамлення той радасці, якую дае праца. Гэтую павагу да працы ўмела ўклаў у яе прагную да рамантыкі душу дзядзька — нязломны, як сталь, чалавек з сэрцам юнака.

...Неяк непрыкметна для сябе Нюра пачала прыслухоўвацца да размовы ў купэ. Гаварыў больш за ўсіх сухенькі, маленькі дзядок.

— Вось і я кажу — шляхі-дарогі розныя ў жыцці бываюць. Унучка мая, Алёнка, да прыкладу, у сына майго адзіная дачка. Ну і, вядома, пасля сямігодкі яе бацька хутчэй у горад адвёз: не дай божа, каб у вёсцы засталася! Прыстроіў яе на нейкага там кухара вучыцца. А яна вазьмі ды і вярніся назад! Ну, і населі на дзеўку: вучыцца лянуецца, гультайка, замуж пражэцца. Ведама, людзі розныя ёсць. А таго не разумеюць, што ў дзяўчынкі сэрца ні да чаго так не ляжыць, як да зямлі. Вось як і ў мяне, да прыкладу. Сын мой вялікі начальнік, у горадзе жыве. Пісаў: прыязджай, бацька, у горад, адпачнеш. А я не хачу, бо я да гэтай самай зямлі прывык. Вось так і Алёнка. Пачала працаваць і адчувае: можна калгас багатым зрабіць. Кажа: лянок трэба сеяць, пра гэта і ў газетах пішуць. Ну, і ўзялася за яго. Даверылі ёй звяном кіраваць. У першы год у яе звяне аж 20 чалавек было. Гектараў 25 сеялі ільну. Нагаравалася яна, бо многія не верылі ёй. А калі ўвосень ад ільну нешта каля поўмільёна прыбытку ўзялі, ды члены звяна багата на працадзень атрымалі, усе здзівіліся: вось табе і лянок, кажуць. Так і празвалі ўнучку Лянок. Потым з яе звяна ўсе нашы знатныя звеннявыя выйшлі. І калгас цяпер разбагацеў, працадзень павялічыўся...

Расказ дзеда нагадваў былыя гутаркі дзядзькі Фёдара. «Можа і мне патрэбна зрабіць вось так, як зрабіла ўнучка гэтага старога». Думка з'явілася выпадкова, была яна неакрэсленай, нясмелай, але ўяўлялася як нейкае выйсце.

Першым сустрэў Нюру дзядзька Фёдар. Ішоў ён на поле з «казой» на плячы.

— Ну як, віншаваць можна?

— Праваліліся, конкурсу не вытрымала.

Нюра думала, дзядзька пачне суцяшаць, шкадаваць яе, а ён, нібы нічога не здарылася, запытаўся:

— Не вельмі змарылася?

— Не.

— Сёння да нас малатарня прыязджае. Калі заахвоцішся, прыходзь.

— Добра, прыду.

Ноччу яна пайшла на ток, падавала на стол важкія жытнія снапы, глядзела, як прагна хапае іх малатарня. У паветры стаяў густы пах хлеба, распаленай саломы. Нюра не магла надыхацца гэтым цёплым водырным паветрам, так яна засумавала па ім за гэтыя дні. І раптам яна адчула, што яе месца тут, у калгасе, што ў другім месцы яна будзе адчуваць сябе, як рыба, выцягнутая з вады.

Калі трактарыст спыніў малатарню, Нюра прысела разам з дзядзькам Фёдарам і сказала:

— Дома кажуць, каб я ехала ў горад і шукала там работу, а я вось вырашыла застацца тут.

— Правільна, пляменніца, працуй у калгасе, трымайся за яго — не прападзеш. Набудзеш практыку, з лёгкай душой перадам

Нюра Варанецкая (справа) з Соняй Пуцеевай складаюць план работы звяна на месяц.

Фото аўтара.



# НАВАТАРЫ

Тры гады назад Лука Бекша прышоў на Віцебскі завод заточных станкоў. Спецыяльнасці ў хлопца ніякай не было. Праўда, працаваў ён некалі слупалазам, але да гэтай справы ўжо не цягнула. У аддзеле кадраў Бекшу прапанавалі вучыцца на слесара-свідравальшчыка, і ён згадзіўся.

Завод, дзе пачаў працаваць хлопец, быў малады, пасляваенны. Ён выпускаў вельмі патрэбную прадукцыю — станкі для заточкі самых рознастайных інструментаў. З цягам часу Бекша нават пачаў ганарыцца тым, што ён працуе іменна на такім важным заводзе.

Колькі месяцаў справа ў Лукі зусім не клеілася, і яму часам было крыўдна да слёз.

— Драўляныя рукі ў цябе, ці што? — злаваўся майстар, з дакорам паглядаючы на сапсаваную дэталь. — Табе, мабыць, лепш было-б на каменаломню падацца...

У адзін з тых месяцаў здарыўся яшчэ такі выпадак. Бекша ў вызначаны дзень зайшоў у бухгалтэрыю за зарплатай.

— З вас, малады чалавек, дванаццаць рублёў, — падкрэслена ветліва звярнуўся да слесара бухгалтар. — Распішыцеся — зарплатай кампенсаваны брак і паламаны інструмент.

Добра, што дапамаглі заўкомаўцы.

Той дзень, калі хлопец упершыню выканаў норму, быў для яго сапраўдным святам. Бекша тады выйшаў з цэха і доўга блукаў па вуліцах. Ён адчуваў, што ў яго жыцці намеціўся нейкі новы, важны рубеж.

Ішоў час. Майстар даўно ўжо лічыў Бекшу, хоць і не вельмі здольным слесарам, але чалавекам на якога можна цвёрда пакласціся. Не ведаў толькі майстар, што хлопец быў увесь час незадаволены сабой, што яму хацелася дамагчыся большага ў сваёй рабоце.

Аднойчы Іван Куляшоў, таварыш Бекшы па цэху, папрасіў яго заточыць свярло. Лука ахвотна выканаў яго просьбу. Калі Іван пачаў гэтым свярлом працаваць, яно выпадкова зламалася, але іменна дзякуючы гэтаму свідраваць стала лягчэй.

Выпадак зацікавіў сяброў. Неяк у абедзенны перапынак Бекша і Куляшоў завялі на гэты конт размову з Валянцінам Багданавым, лепшым слесарам-зборшчыкам, і Ліляй Альшанікавай — выдатнай фрэзероўшчыцай.

— Відаць, і ўвесь сакрэт у тым, што свярло зламалася незвычайна, — сказаў Багданаў. — Шкода нам на карысць...

— На зломе атрымалася нешта падобнае на вілку, — пацвердзіў Бекша. — Трэба паглядзець. У падручніках пра гэта няма.

— А вось што скажу, — Ліля Альшанікава нават зачырванелася, — трэба паспрабаваць яшчэ зрабіць некалькі такіх свёрлаў. Табе, Лука, прыдзецца...

Бекшу гэта ідэя захапіла. Працаваў ён дзень, другі, тыдзень, месяц. Але поспеху не было. Свёрлы ламаліся, але не так, як трэба.

Неяк у цэх зайшоў сакратар заводскага камітэта комсамола Пётр Рэпнікаў.

— У «Правде», брат, пра свідравальшчыка Жырова напісалі. Нешта падобнае да тваіх практыкаванняў. Прачытай, — сказаў ён Бекшу.

Лука прачытаў артыкул. Думаў ён шмат, і шмат пасля прышлося папрацаваць.

Нарэшце, гэта было больш чым праз два месяцы пасля пачатку ўсяе гісторыі, свёрлы атрымаліся крыху лепшымі. Але да перамогі было яшчэ далёка.

Сумненням маладога наватара паклаў канец сам Жыроў. У жніўні Бекшу запрасілі ў Маскву на нараду маладых рабочых станкабудаўнічай прамысловасці. Там віцебскі слесар сустрэўся з праслаўленым наватарам. Гаварылі яны шмат. Жыроў, аказваецца, таксама пачынаў з выпадковай паломкі свярла, толькі яму дапамаглі супрацоўнікі Куйбышэўскага індустрыяльнага інстытута. Прайшоў яшчэ месяц. Нарэшце, былі знойдзены дасканалыя габарыты новага свярла...

З імем Бекшы і яго таварышаў на заводзе заточных станкоў звязваюць зараз многае. Пачалі ўкараняцца хуткасныя рэжымы, амаль у тры разы скараціўся расход свёрлаў, павялічыўся час эксплуатацыі станка. Гэта была перамога не аднаго толькі слесара-свідравальшчыка, а ўсяго шматлікага, настойлівага калектыву.

Б. МАРТЫНАЎ.



У камітэце комсамола Віцебскага завода заточных станкоў (злева направа) Мікола Грышчанка, Валянцін Багданаў і Пётр Рэпнікаў абмяркоўваюць прапановы маладых рацыяналізатараў.

---

табе брыгадзірства, бо ўпэўнены, ты справу не заваліш, а навукі ў цябе намнога больш, чым у мяне.

Нюра ўспомніла, што гэтак-жа дзядзька гаварыў і Дзмітрыю Якаўлевічу Старавойтаву, здаючы яму пасаду старшыні калгаса. Ёй стала шкада дзядзькі.

— А ты, дзядзька Фёдар?

— Я рад, што справа, якую пачынаў, жыве. — Нечакана для Нюры ён запытаўся: — А як ты глядзіш, калі мы цябе звеннявой паставім?

— Што ты... — сказала Нюра і раптам успомніла тую дзяўчыну, Алёнку. Тая сама прапанавала выбраць яе звеннявой.

Зімой у школе сабраўся сход. Нюра на сход ісці не збіралася, але пад вечар да яе ў хату зайшоў дзядзька Фёдар, папрасіў абавязкова быць. Нюра апранула паліто, накінула на галаву цёплую хустку і пайшла.

Як толькі яна ўвайшла ў пакой, дзе заўсёды адбываліся калгасныя сходы, яе паклікалі Соня Пуцева і Броня Карповіч. Яны сядзелі на задніх партах у самым кутку і нечага смяяліся. Тут, у кутку, заўсёды сядзела моладзь і сваімі жартамі, смехам звычайна толькі перашкаджала сходу.

На сходзе абмяркоўваліся розныя гаспадарчыя пытанні: аб падрыхтоўцы насення да сяўбы, аб рамонце інвентару.

— А цяпер, таварышы, — прапанаваў дзядзька Фёдар, — давайце дамовімся аб стварэнні ў нашай брыгадзе ільнаводчага звяна. Лён, як той казаў, — жывое золата, толькі трэба ўмела яго ў рукі ўзяць. У каго ёсць прапанова наконт звеннявога, ці можа сам хто добраахвотна возьмецца за гэтую справу?

Спачатку наступіла маўчанне, потым нехта ад дзвярэй назваў прозвішча, чыё — за сталом прэзідыума не пачулі, але ўслед адтуль-жа даляцелі абураныя словы жанчыны:

— Сваю жонку пашлі, у яе двое, а ў мяне пяцёра адно пад другім.

— Усе разам будзем лён расціць, — унёс хтосьці прапанову.

Дзядзька Фёдар пачакаў, пакуль сціх шум, адказаў:

— Мы на самацёк такую справу пускаць не можам, вось што. Лён патрабуе стараннага догляду.

Нюра ўважліва слухала спрэчкі. Успомніўся дзед, што ехаў у вагоне, як жывая, уявілася яго ўнучка Лянок, хоць Нюра яе ніколі не бачыла.

— Можа, гэта і ёсць дарога ў людзі, — падумала яна і паглядзела на дзядзьку Фёдара. Ён таксама глядзеў на яе і, здавалася, пытаўся: «Ну, чаго маўчыш, пляменніца, вось ён і прышоў, сапраўдны экзамен». Тады Нюра, не адрываючы вачэй ад прэзідыума, сказала нягучна:

— Назначце мяне звеннявой.

У зале зарыпелі парты, і Нюра адчула, што на яе глядзяць дзесяткі вачэй.

Сход даручыў Нюры падабраць членаў звяна. Першымі ў яго запісаліся Броня Карповіч і Соня Пуцеева. Але на гэтым справа і застыла. Прыходзілася агітаваць, растлумачваць, але, нарэшце, звяно падабралася. Праўда, было яно не такое, як хацелася Нюры. Многія цёткі мелі дзяцей і загадзя папярэджвалі, што шмат часу аддаваць ільну яны не могуць.

А вясна ўжо грукала ў дзверы. Трэба было ачышчаць насенне, нарыхтоўваць угнаенне. Нюра, Соня, Броня не ведалі спакою. Было нялёгка, але да сяўбы яны многае зрабілі.

Сяўбу пачалі рана і нешта дні за тры закончылі яе. Цяпер трэба было рыхтавацца даглядаць пасевы. Нюра пайшла да агранома.

З першых слоў Нюра зразумела: прышла яна дарэмна. Той нешта мармытаў сабе пад нос, крывіўся і, нарэшце, сказаў: «Сама пісьменная, вось і чытай кнігі».

Нюра пачала чытаць. І вось яна хутка зразумела, што зроблена вялікая памылка: лён пасеяны па дрэнных папярэдніках, добрага ўраджаю з такой зямлі не чакай.

Членам звяна яна пра гэта не сказала, не хацела засмучаць іх раней часу.

Лён рос марудна, жаўцеў, а тут яшчэ засуха. Выратавала-б пасевы падкормка. Нажаль, попелу за зіму сабралі мала, прыходзілася ездзіць па хатах, збіраць яго цяпер. У асноўным дзяўчаты так і працавалі ўтрох, астатнія то выходзілі на іншыя работы, то заставаліся дома.

І ўсё-ж ураджай аказаўся няважным. Прычын было многа: засуха, няўдалыя папярэднікі, недастатковасць угнаенняў. Але больш за ўсё Нюра вінаваціла сябе: трэба было як належыць падбіраць звяно. Калі падвялі вынікі, Нюра спахмурнела, маўкліва пайшла дадому. Ужо на вуліцы яе дагнаў дзядзька Фёдар.

— Ты, пляменніца, не вешай нос, вось што. Масква таксама не адразу будавалася. Наступным летам большага дасягнеш. Тут і мая віна ёсць. Мала дапамагаў табе.

Ён непрыкметна намячаў план на будучае, асцярожна, каб Нюра не пакрыўдзілася, даваў парады, як трэба падабраць звяно, як рыхтавацца да сяўбы.

— Галоўнае, пачатак зроблены. Лён у нас становіцца сур'ёзнай культурай, — ён так і сказаў «сур'ёзнай», як гаварыў аб якім-небудзь паважаным ім чалавеку.

І Нюра ўзялася за працу. Яна падабрала ў звяно толькі тых, хто сапраўды мог працаваць, не пакладаючы рук. Дзяўчат, якія працавалі ў звяне і не былі комсамолкамі, падрыхтавала да ўступлення ў комсамол. Цяпер у брыгадзе можна было стварыць комсамольскую групу. А гэта намнога аблегчыла работу. Навучаная горкім вопытам, Нюра дабілася выдзялення ўчастка пад лён яшчэ з восені. З восені пайшлі збіраць і мясцовыя ўгнаенні.

— Зараз, Нюра, можаш смела даваць слова сабраць з кожнага гектара па 6 цэнтнераў ільновалакна, — гаварыла ёй Соня Пуцеева, калі Нюра збіралася ехаць у Віцебск на нараду маладых ільнаводаў.

І вось Нюра ў зале пасяджэнняў. Тут адна моладзь, такія-ж, як Нюра, дзяўчаты. Многія з іх ужо вопытныя ільнаводы, дабіліся вялікіх поспехаў. «А можа сярод іх і Лянок, — падумала Нюра. — Вось-бы сустрэцца з ёю! І як я тады не спытала, адкуль родам дзед».

Спрабавала Нюра пытаць, ці няма тут такой Алёнкі, але хутка зразумела: многа ў нас цяпер такіх дзяўчат, якія дарогу сваю вельмі правільна выбіраюць.

**Калгас імя Кірава Багушэўскага раёна.**



# Два пісьмы

Яўгені МАЗО

Мал. Г. Паплаўскага.

I

Фёдар варочаўся з боку на бок, але заснуць не мог, хоць стомленасць адчувалася ва ўсім целе. Гэта-ж не жарт — за змену амаль удвая перавысіць норму. Некалькі разоў ламаліся нарогі аб цвёрды пласт дзёрну. Ведама, вякамі някранутая зямля! А гарачыня! Дыхаць няма чым. Карычневы пыл завалок увесь далягляд. А тут яшчэ другія суткі не прывозяць прэснай вады. Прабавалі піць з азярыны, ды вада там занадта салёная. Пад канец дня Фёдар ужо ледзь перасоўваў рычагі на трактары. А тут яшчэ, як на грэх, пажар у стэпе. Тушыць хадзілі ўсёй брыгадай. Вяртаючыся ў стан на начлег, ён думаў: от толькі-б дабрацца да тапчана і заснуць. А вось лёг і не спіцца.

«Навошта яна прыслала гэтае пісьмо? Зноў устрывожыла душу... — падумаў ён. — Што было, тое быльнягом зарасло. Парашыў я забыць, вырваць з сэрца яе, а тут на табе — зноў»,— сказаў ён ужо ў каторы раз за сённяшні дзень горкія, як стэпавы палын, словы.

Ён сеў, выцер успатнелы лоб, палез у кішэню па папяросы, і раптам рука яго здрыганулася, нібы дакрануўшыся да нечага гарачага. Ён запаліў ліхтарык і пры скупым святле яго пачаў чытаць на канверце зваротны адрас.

«Адрас іншы. Няўжо выйшла замуж, выехала з Мінска?» — нешта захрасла ў горле, кроў абпякла твар. Хацеў парваць пісьмо на шматкі, але нейкая невядомая сіла прымусіла яго разгарнуць учацвёра складзены ліст паперы.

«Добры дзень, Фёдар Пятровіч! — было выведзена ў першым радку буйнымі, выразнымі літарамі. — Піша да Вас вядомая Вам Марыя. Федзя, калі ты ад'язджаў, была зіма, а цяпер ужо восень. У тым садзе, дзе мы часта гулялі, асыпаецца жоўтае лісце. Чаму ты не пішаш? Абяцаў-жа. Відаць, абяцанка-цацанка. У мяне, Федзечка, у жыцці адбыліся змены. Калі цябе цікавіць, напішу ў наступным пісьме больш падрабязна. Але толькі пасля таго, як атрымаю ад цябе адказ. Напішы мне пра сваё жыццё, пра работу, пра сваіх сяброў — усё гэта мяне вельмі цікавіць. На гэтым канчаю сваё невялічкае пісьмо. Пацiскаю моцна руку, калі ты мяне яшчэ не забыў. Твая добрая знаёмая Маша».

— Што-ж мне рабіць: адказваць ці не?.. Дзе-ж той Валодзя, толькі ён, хіба, і можа дапамагчы.

Прамень ліхтарыка слізгануў па сонных тварах хлопцаў і выхапіў з цемры загарэлы твар Анатоля. Ён чамусьці ўсміхаўся, а Віктар Ляшко спрасоння гаварыў штосьці, — відаць, нешта добрае сніў. Валодзі не было.

Фёдар ціха выйшаў з палаткі. На небе зіхацелі заранкі. Недзе далёка-далёка за ўзгоркамі палыхнула маланка і асвятліла на момант бяскрайні стэп.

Прайшло, здаецца, яшчэ зусім мала часу з таго халоднага сакавіцкага ранку, калі прыехалі сюды першыя навасёлы. А як непазнавальна змяніўся стэп! Ён ужо не здаецца, як спачатку, дзікім і пустэльным. Да самага небакраю пралеглі барозны, соладка запахла сакавітым, пульхным чарназёмам, з-пад якога выпіраецца карэнне кавылю. Трактары ідуць усё далей і далей. А праз якія месяцы два зашумяць калоссем бяскрайнія палеткі. Ад гэтых думак на душы ў Фёдара становіцца радасна, лёгка.

Удалечыні віднелася вогнішча, і Фёдар пайшоў туды, на агонь. Ён ведаў, што там стары казах Камял Азербакіеў пасвіць атару авечак, а з ім, напэўна, і яго сябра Уладзімір Волкаў, які ў апошні час вельмі здружыўся са старым.

Свежы начны ветрык прыемна лашчыць фёдараў твар, развявае непаслухмяную чупрыну. «Эх, каб вось гэтак рука ў руку па гэтай багатай зямлі з Марыйкай выходзіць насустрач золку. Як хораша было-б», — мільганула думка, але ён адразу-ж пастараўся адагнаць яе. «Валодзю трэба будзе як мае быць прабраць. Хлопец амаль не адпачывае. І цікава-ж яму усе ночы праседжваць са старым. Іншая справа — з дзяўчынай».

Зноў нахлынулі ўспаміны.

...Быў цудоўны сакавіцкі вечар. Федзя ішоў з Марыйкай па шырокаму, залітаму электрычным святлом праспекту імя Сталіна ў Мінску. Гэта было якраз перад ад'ездам. Марыя таксама мелася ехаць. Але ахвотнікаў было гэтак многа, што вырашана было астатніх адправіць наступнай партыяй. Яны ішлі ў той развітальны вечар, блізка адчуваючы адзін аднаго. Церушыў дробны снег. Каля Дома афіцэраў яны папрасілі ў хлапчукоў санкі і, нібы дзеці, з'ехалі з гары. Вецер шумеў у вушах, і Марыйка моцна прыціснулася да Федзі. Ён адчуў яе цёплае дыханне.

Вуліцы пакрысе пусцелі. Людзей і машын станавілася ўсё менш і менш, і вось яны ўжо амаль адны. Доўга яшчэ стаялі яны, трымаючы адно другога за рукі, на падвясным мосце, што вядзе ў Парк імя Горкага, і моўчкі глядзелі на спакойную Свіслач. Сняжынкі срабрыстымі зорачкамі кружыліся перад запаленымі ліхтарамі. Навокал было так ціха, што Фёдар, баючыся парушыць гэтую ўрачыстую цішыню, шаптаў:

— Будзеш мне пісаць?

— А як-жа, — і Марыйка кіўнула галавой. На ружовых ад марозу шчоках яе з'явіліся ямачкі, ад якіх, нібы промні сонца, па ўсім абліччу разлілася радасць. Усю гэтую ноч, аж да самага світання, яны прахадзілі па парку, але, як гэта бывае заўсёды ў хвіліны ростані, галоўнага не было сказана.

А назаўтра яна не прышла на вакзал. Фёдар вочы свае праглядзеў, шукаючы яе. Спачатку ён думаў: можа здарылася штонебудзь благое? Але цяпер яму ўсё ясна: яна хлусіла.

Фёдар прыспешвае хаду. Да вогнішча яшчэ далекавата. Зірнуўшы на зоркі, ён падумаў: «Хутка, мусіць, віднець пачне». Хораша зараз, улетку. А як было тады, калі толькі прыехалі. Няласкава сустрэў стэп навасёлаў. У першую-ж ноч у дарозе пачалася завіруха. Вакол зрабілася цёмна, а з неба валіліся гурбы снегу; вецер скуголіў, стукаў у вокны, урываўся ў дзверы вагончыка.

Уранні завіруха сціхла. Жыхары аула радасна сустракалі навасёлаў. На ганку Фёдара?? 

— Мы, дарагія сябры, вас даўно чакалі, — сказаў ён, — але вы ў нас не госці. Вы тут такія-ж гаспадары, як і мы. Гаспадарка ў нас вялікая, жывем заможна. Адных авечак пад пяцьдзесят тысяч маем, больш дзесяці тысяч галоў рагатай жывёлы, парнікі, сад. Ёсць свая электрастанцыя, клуб, школа, лазня, магазіны, чайная. Так што ўладкоўвайцеся і — за справу.

Назаўтра адбыўся камсамольскі сход, на якім было прынята рашэнне заставацца ў ауле да першых дзён вясны. За гэты час трэба было дапамагчы саўгасу падрыхтаваць парніковыя рамы, дагледзець памяшканні для жывёлы. Хлопцам трэба было таксама вывучыць трактар і камбайн, бо большасць з прыехаўшых не ведала гэтых машын.

Усяго было за гэтыя нядоўгія месяцы: часам хлопцы недаядалі, недасыпалі. Нялёгка ўсё давалася. Але Фёдар ніколькі не шкадуе, што апынуўся тут, на перадавой лініі. А вось Маша спалохалася, пагналася за лёгкім жыццём і выйшла, відаць, замуж таксама з разлікам.

— Эх, Марыйка, Марыйка, — з крыўдай зноў успомніў ён пра сваю каханую. Фёдар ужо колькі разоў заўважаў, што аб чым ён ні думаў-бы, а кожны раз мімаволі прыходзіць у галаву Марыя.

Ціхая, шчырая песня перапыніла роўную ходу яго думак. Ён спыніўся. Ля вогнішча нерухома сядзеў Камял Азербакіеў і глядзеў на агонь, а поруч, заклаўшы рукі пад галаву, ляжаў Валодзя і ціха спяваў.

Голас у Валодзі не вельмі моцны, але столькі шчырасці хлопец уклаў у песню, што, здавалася, яна сама лілася з сэрца. У Фёдара аж дыханне перахапіла. Дужа добра спявае яго прычэпшчык!

Песня скончылася. Але адразу яе падхапілі нейкія птушкі.

— Ого! Зірні, Валодзя. Індыйскія вераб'і да нас прыляцелі, — гаворыць Камял і падымае сівую галаву. Асветлены вогнішчам, яго карычневы твар, вялікі, увесь у зморшчынках лоб, сівая барада робяць яго падобным да старога мудраца з нейкай казкі, якую мы чулі ў дзяцінстве.

— Гэта вельмі добрая прыкмета, — працягвае Камял. — Вераб'і гэтыя — вялікія аб'ядалы. Яны лятуць толькі туды, дзе прадчуваюць добры ўраджай.

Камял падкідае ў агонь некалькі ламачын. З чайніка, падвешанага на таганец, булькаючы, выскакваюць бурбалкі.

— Чай гатовы, — гаворыць ён і дастае з шэрай сержанцкай сумкі, якую яму падараваў Валодзя, блакітныя невялічкія піялы, маленькі ў кветачкі чайнік і налівае піялы.

— Пі, Валодзя! Чай піць — здароўя прыбаўляць.

Камял п'е павольна, пасля кожнага глытка смакуе. Непадалёк забляялі авечкі, яны густой чарадой беглі да азярынкі, якая сінела ў зарасніку кавылю. Камял замахваецца на іх кіем, пагражае. У гэты час з паверхні азярыны падняліся на срабрыстых крылцах сотні малюпасенькіх, ледзь бачных істот. Яны светлай аблачынкай ляцелі над галавой Фёдара. Ён прыўзняўся на дыбачкі і спаймаў на ляту некалькі матылькоў.

— Хлеб-соль, — сказаў Фёдар, падыходзячы да вогнішча.

— Садзіся з намі, — сказаў Камял і дастаў з сумкі трэцюю піялу.

— Дзядуля Камял, што гэта за насякомыя? — з цікавасцю спытаў Фёдар і расшчапіў кулак. Насякомыя паляцелі.

Ледзь прыкметная зычлівая ўсмешка, схаваная ў дзедавай барадзе, крыху прыўзняла куточкі губ. Водбліск агню адбіўся ў чорных вачах.

— Гэтыя маленькія істоты называюцца ў нас падзёнкі. Пра іх у народзе ходзіць такая легенда:

Як і цяпер, так і стагоддзі назад кахалі. Гадоў тысяч пяць назад гэты стэп належаў хану Кара-Батыру. А ў нашым ауле жыла прыгажуня Зехрэ і юнак Тэхір. Яна была, як сонца, а ён — як цюльпан. І вось яны пакахалі адзін аднаго. Нічога, здаецца, няма незвычайнага. Тэхір, як закахаўся, дык адразу стаў паэтам. Сэрца яго спявала. Так заўсёды бывае. Прыдзе ён да кібіткі Зехрэ, возьме ў рукі зурну і заспявае. І пяе да самай раніцы. А аднаго разу праязджаў па аулу кара-батыраў цівун. Убачыў Зехрэ. Такой прыгажуні ў хана яшчэ не было, хоць ён і меў трыста жонак і дзвесце наложніц. Брыдкая думка мільганула ў цівуна. Ён добры падарунак падрыхтуе Кара-Батыру, а той яго шчодра ўзнагародзіць за гэта. Зехрэ з Тэхірам у той час сядзелі ў садзе, варкавалі, як тыя галубкі. У момант была схоплена Зехрэ, а Тэхіра звязалі і пакінулі пад дрэвам. Цівун па нейкіх справах павінен быў застацца ў ауле на ноч.

Тэхіра людзі развязалі. Ён падкраўся да хлява, дзе была Зехрэ, забіў вартавога, пасадзіў на каня сваю каханую, і яны паімчаліся ў стэп да азярыны. Тут яны на плыце адсвяткавалі сваю першую шлюбную ноч, а на золку, абняўшыся, кінуліся на дно з камянямі на шыі. З таго часу кожны раз на світанні, калі абуджаюцца птушкі, з возера вылятаюць на срабрыстых крылцах падзёнкі — кавалачкі сэрцаў Зехрэ і Тэхіра. Падзёнкі жывуць у шлюбным палёце ўсяго толькі дзве гадзіны. Усё іх нядоўгае жыццё прысвечана таму, каб хоць на момант адчуць слодыч кахання, а пасля гэтага памерці. Гэта сімвал смерці Зехрэ і Тэхіра. Але як толькі адны паміраюць, другія нараджаюцца для яшчэ больш моцнага кахання. Каханне не памірае, — скончыў Камял.

Твар яго ажывіўся, стаў зусім іншым. У гэты час ён быў падобны на старога паэта з вечна маладым сэрцам. І Фёдар зразумеў, чаму Валодзя гэтак пасябраваў з гэтым чалавекам. З ім, пэўна, ніколі не сумна.

— Не, дзядуня, каханне памірае, — паспрабаваў пярэчыць Фёдар, успомніўшы пра Марыю. — Ростань тушыць каханне.

Камял уважліва паглядзеў на Фёдара і сказаў:

— Вялікае каханне не баіцца ростані. У цябе, Федзя, смутак на сэрцы. Не таі. Памятай: у цябе ёсць сябры, якія заўсёды дапамогуць. Раскажы, а мы паслухаем, добрую раду дадзім.

Ці то ад цёплага позірку, ці ад ласкавых слоў, Фёдар шчыра расказаў пра сваё каханне да Марыі, пра апошняе спатканне, пра тое, як яна не прыйшла на вакзал перад яго ад'ездам. А цяпер вось прыслала пісьмо з іншым адрасам і з іншым прозвішчам.

— Э, брат, твая песенька спета, — уставіў Уладзімір і насунуў на лоб цюбецейку — падарунак Камяла. — Шукай сабе другую каханую.

— Сілай міл не будзеш, — заключыў Фёдар. — Я думаю ёй зусім на пісьмо не адказваць. Гэтак лепш будзе.

— Не спяшайся, сынку, з рашэннем, — пасля некаторага роздуму сказаў Камял. — Сем разоў адмерай, усё даведайся, а пасля і рэж. Можа, тут прычына якая ёсць.

— А я ёй адказаў-бы, — горача сказаў Уладзімір. — Напісаў-бы такое пісьмо, каб усё жыццё чырванела.

Агонь дагарэў. Займалася на дзень. Хутка трэба было заступаць на змену. Развітаўшыся з Камялам, Фёдар з Уладзімірам спяшаліся ў стан. Па дарозе яны сустрэлі караван вярблюдаў. Вярблюды, наўючаны вялізнымі цюкамі воўны, набітай у вяровачныя сеткі, пакідалі на дарозе шырокія сляды. Караванбашы сядзеў верхам на першым вярблюдзе і, параўняўшыся з навасёламі, прыўзняў чорную з белай каймой шапку.

— Селям алейкум! — павітаўся ён.

— Мір чалавеку, — адказалі яму ў адзін голас Фёдар і Уладзімір. Твары іх асвятліліся ўсмешкай.

— Калі вернешся назад, — сказаў наўздагон караваншчыку Фёдар, — тады караван свой вядзі другой дарогай, а тут мы пасеем пшаніцу.

— І пабудуем дамы, — дадаў Уладзімір.

Першыя промні ўзыходзячага сонца затрапяталі на чырвоным палотнішчы сцяга, узнятага над палаткай навасёлаў. Сябры, абняўшыся, ішлі па ўзаранай цаліне, трымаючы кірунак на гэты трапяткі чырвоны маяк.

## II

«Прывітанне з Казахстана!

Марыя! Піша вам зусім незнаёмы чалавек, і толькі мая шчырая дружба з некалі блізкім вам чалавекам дае мне права, вымушае мяне пісаць гэтае пісьмо.

Пісьмо ваша Фёдар атрымаў, але, мусіць, вам не адкажа. І, па-мойму, гэта правільна.

З таго дня, як ён атрымаў ваша пісьмо з іншым адрасам і з новым вашым прозвішчам, прайшло многа часу. Нікому, апрача мяне, ён пра гэта не расказваў. Але я ўпэўнены, што ён думае часта пра вас, і мне балюча за яго. Мы стараемся паказаць яму, што вы — гэта проста памылка ў яго жыцці і ўсяго толькі. Ды і сам ён гэта вельмі добра разумее.

Вы просіце, каб Фёдар напісаў вам пра наша жыццё. Не турбуйцеся. Жывем мы лепш быць не можа — дружна (гэтае пачуццё ў нас вышэй за ўсё). Наш соўгас першым у раёне скончыў уборку ўраджаю. Калі вы цікавіцеся, то можаце з газет даведацца, колькі пудоў хлеба мы здалі роднай дзяржаве.

Жывем мы культурна, цікава, весела. А між іншым, я забыў, што цяпер вас гэта ўжо не цікавіць. Гэтага майго пісьма Фёдар не чытаў, хоць я і паказваў яму. Ён уклаў у канверт вось гэты колас. Вось і ўсё. Бывайце. Уладзімір».

Ужо больш гадзіны Марыя сядзіць нерухома, крыху схіліўшы галаву на бок. Яна асцярожна перабірае вусікі коласа і глядзіць на пісьмо.

— Любы, — шэпча яна, — нарэшце атрымала ад цябе вестку.

І якімі крыўднымі, калючымі ні былі словы пісьма, усё-ж яна была шчаслівай. Сваім дзявочым сэрцам яна адчула, што Фёдар без яе жыць не можа. Яна яму напіша вялікае, вялікае пісьмо. Напіша, як яны размінуліся. Перад яго ад'ездам яна проста спазнілася на вакзал. Гэта атрымалася недарэчна. Яна, праўда, прыбегла на вакзал і толькі ўбачыла Фёдара ў акне, калі поезд ужо адыходзіў. Напіша, як сумавала, чакаючы ад яго пісьма, і, не дачакаўшыся, пайшла ў райком комсамола і даведалася адрас. Якраз у гэты час захварэла яе цётка, і Марыя выехала з Мінска, вырашыўшы, што ў вёсцы яна можа прынесці карысці больш, чым прадаўшчыцай у абутковым магазіне. Адтуль, з вёскі, яна і напісала сваё першае кароценькае пісьмо да Фёдара. Падумала, што калі яна дасць адрас цёткі і яе прозвішча, пісьмо хутчэй яе знойдзе, бо тут, у вёсцы, Марыю яшчэ ніхто не ведаў. А Фёдар вось як зразумеў!

— Дурненькі ты, Федзя, — шэпчуць яе вусны. — Я-ж цябе кахаю.

Па вуліцы ішла моладзь з гармонікам, з песняй. Але Марыя нічога не чула. На душы ў яе была радасць.



Юры ВІЛЬЧЫК

# Згуртаванне калектыва

Нататкі класнага кіраўніка

Пачынаўся ўрок. Пакуль вучні садзіліся, ляскаючы крышкамі парт і ціха перашэптваючыся, я насцярожана агледзеў клас. Маю ўвагу прыцягнуў хударлявы высокі хлопчык гадоў трынаццаці. Абапёршыся локцямі на парту суседа, ён прыжмуранымі вочкамі бліскаў на мяне.

— Сядай, — сказаў я хлопчыку.

— А чаго? Я і так сяджу, — крыху нахабна адказаў ён і, захоўваючы позу неахайнасці, сеў за парту.

— Так ты можаш скалечыць пазваночнік, — суха зазначыў я і дадаў больш сурова: — Бярыся за работу. Урок пачаўся.

Хлопчык усміхнуўся, мармытнуў нешта суседзям і, знарок шумна корпаючыся ў партфелі, пачаў даставаць падручнікі. Як я потым даведаўся, хлопчыка звалі Іванам Макоўскім.

Пяты клас «Б» 32-й школы быў неарганізаваным. Вучні размаўлялі на ўроках, падказвалі адзін другому, шумна выказвалі свае захапленні ці крыўду. Вандраванне ад парты да парты ўвайшло тут у звычай і стала нормай. Я лавіў на сабе здзіўленыя позіркі вучняў, якім рабіў заўвагі. У класе вылучалася група завадатараў, сярод якіх быў і Іван Макоўскі. Яны і былі дэзарганізатарамі класа.

Пасля ўрокаў я доўга і пакутліва думаў аб плане выхаваўчай работы, але ўсё, што я ні прыдумваў, здавалася мне неістотным. Нарэшце, склаў план, як мне здалося, нядрэнны. Але на другі-ж дзень я пераканаўся ў поўнай яго непрыгоднасці. Відаць, давала сябе знаць павярхоўнае знаёмства з калектывам. Да вучняў трэба было прывыкнуць, заваяваць іх давер, зразумець іх запатрабаванні, павесці за сабой клас. Але як?..

Часта мае добрыя намеры і мерапрыемствы ўшчэнт разбіваліся аб глухую сцяну абыякавасці вучняў. Розныя сходы і зборы, якіх у плане было нямала, не цікавілі вучняў. Яны прыдумвалі розныя прычыны, толькі-б не сядзець на такіх зборах. Часта на двары, а то і ў класе ўсчыналіся сваркі, бойкі. Былі і такія, што здзекаваліся са слабых. А тыя, баючыся паскардзіцца, маўкліва перажывалі крыўду.

Я ледзь не разгубіўся, не ведаў, што рабіць: даваў заўвагі, пераконваў, угаварваў, тлумачыў, накладаў спагнанні, пагражаў, але ўсё гэта прыставала, як гарох да сцяны. Асабліва было цяжка з такімі вучнямі, як Іван Макоўскі, Алег Гаеўскі, Пётр Дубіцкі, Анатоль Вайцахоўскі. Кожны дзень, бывала, чуеш:

— Вашы вучні шыбу выбілі.

— Вучні пятага «Б» сарвалі вешалку.

— Самы брудны клас. Уся падлога ў смецці.

— Ваш Макоўскі грубіян, а вы яму патураеце.

Горка і крыўдна было гэта слухаць. З'явілася нават думка пакінуць школу, бо які-ж я выхавацель, калі са сваім класам справіцца не магу. У гэты цяжкі для мяне час на дапамогу мне прышоў дырэктар школы Сяргей Данілавіч Самушчоў.

— Стварыце актыў класа. Вам адразу лягчэй стане.

Пачаў я прыглядацца да сваіх вучняў. Вось Іван Макоўскі — своеасаблівы, гарачы, часта грубаваты, але энергічны, ініцыятыўны і здольны хлопчык. Неблагі арганізатар, добра малюе. Лёня Даманаў — спакойны па характару, таксама нядрэнна малюе, добры арганізатар. Алег Гаеўскі—высокі, дужы, але ўспыхвае, як запалка, хутка рэагуе на крыўду, аднак здольны, любіць фізічную працу, сумленны і справядлівы... Адным словам, многа добрых рабят было ў маім пятым «Б».

Аднаго разу я сабраў хлопчыкаў і сказаў:

— Вось што, хлопцы, давайце пагаворым шчыра, што будзем рабіць далей.

Гляджу, пазіраюць адзін на аднаго, усміхаюцца. Памаўчалі, а потым задумаліся. Нарэшце, нехта з іх сказаў:

— Ды што маўчаць, Юры Сцяпанавіч. Клас наш нядружны. Кожны ў свой бок цягне. Вось, напрыклад, дзяўчынкі...

— А вы?

— Ды і ў нас не зусім ладна...

Бачу, за жывое ўзяло. Зашумелі яны, загаманілі. Пачалі расказваць шчыра, як і што яны думаюць пра клас і пра таварышаў. Нават заспрачаліся. І тут я зразумеў сваю памылку: сходы я праводзіў сам, а вучні былі толькі слухачамі, а не ўдзельнікамі, цікавай работы ім ніякай не даваў. Сходы і зборы, калі і захаплялі, дык хіба толькі дзяўчынак, ды і то не ўсіх. А хлопцам — давай малаток, рыдлёўку, фотаапарат.

З гэтага я і пачаў. Хлопчыкі пайшлі ў гурткі: хто ў авіямадэльны, хто ў спартыўны ці фото. Я дабіўся таго, што многія з іх прынялі ў гурткі Палаца піонераў. Не



Група вучняў VIII «А» класа 32-й школы: (злева направа) Генадзі Зіноўчык, Раман Рыжковіч, Жана Лебедзева, Рыта Зіноўчык, стаяць Алег Гаеўскі і Іван Макоўскі.

змяншаючы патрабаванняў на ўроках, я пачаў больш чула ставіцца да вучняў. Калі ўжо каго караў, дык заслужана, па справядлівасці. Калі праводзіў якое мерапрыемства, дык стараўся, каб яно ажыццяўлялася па ініцыятыве вучняў. Я ўлічваў заўсёды здольнасці і схільнасці кожнага: аднаму даручаў адрамантаваць парту, другому падрыхтаваць да ўрока наглядныя дапаможнікі, трэцяму — напісаць допіс у насценгазету, чацвёртаму —арганізаваць у класе шахматны турнір. Ва ўсім я дабіваўся, каб абудзіць у вучняў пачуццё адказнасці. Асаблівую ўвагу я ўдзяляў выпуску насценгазеты і гумарыстычных лісткоў «Кракадзіл» і «Калючка». Насценгазета і гумарыстычныя лісткі ажывілі калектыў. У класе ўсё часцей узнікалі спрэчкі вакол той ці іншай заметкі. Я з радасцю адзначыў сабе, што пачалі выяўляцца прыхільнікі свядомай дысцыпліны. Калі раней хто-небудзь накідае паперак на падлогу, ніхто яму слова не скажа. Накідаў, ну і няхай, — прыбіральшчыца падмяце. А зараз пачуеш:

— Ты што? Хочаш, каб цябе ў газеце намалявалі?

Аднаго разу нехта паламаў урну. Хлопчыкі вырашылі адрамантаваць яе самі. На другі дзень яна стаяла ў кутку—свежапафарбаваная, нават і пазнаць нельга, што была паламаная. Дзяўчынкі прыбіралі клас, нават мылі падлогу. На вокнах з'явіліся марлевыя фіранкі. Мой клас прыкметна пачаў вылучацца па ўсёй школе.

Для таго, каб павысіць паспяховасць у класе, мы стварылі гурткі ўзаемадапамогі па алгебры, рускай мове і іншых дысцыплінах. Цяпер «двоечнікаў» дапякаў не я, а самі вучні.

Праз год-два класа нельга было пазнаць. Была створана добрая комсамольская арганізацыя. Комсамольцы ўзначалілі калектыў. Да прыёму ў комсамол класная комсамольская арганізацыя падыходзіла вельмі сур'ёзна. Будучаму комсамольцу даваліся даручэнні, сачылі за выкананнем іх, і калі даручэнні выконваліся добрасумленна, чэсна, тады прымалі ў комсамол.

Вельмі многа давялося папрацаваць з Макоўскім. Самаўлюбёны, рэзкі, ён мне рабіў многа клопату і непрыемнасцей. Але я заўважыў у ім каштоўную якасць—гарачае жаданне дзейнасці, ініцыятыву, здольнасці арганізатара — і цярпліва накіроўваў яго на правільны шлях. Трэба сказаць, не памыліўся: ён мне многа дапамог у арганізацыі класа. Амаль тое-ж самае было з Алегам Гаеўскім і з Пецем Дубіцкім.

У групу актыву ўвайшлі і дзяўчынкі—Галя Жардзецкая, Рыта Зіноўчык, Ларыса Кузючына, Людміла Безансон. Цяпер у класе — восемнаццаць комсамольцаў. Многія з іх з'яўляюцца кіраўнікамі ў школьных комсамольскіх і піонерскіх арганізацыях. Макоўскі — сакратар камітэта комсамола школы, Гаеўскі і Філіпчук—члены камітэта. Зіноўчык — рэдактар насценгазеты «Піонерская дружына».

Дапамаглі нам аб'еднаць клас «вечары дружбы». Звычайна, яны праходзілі так: чытаўся невялічкі даклад на пэўную тэму, або наладжваўся канцэрт самадзейнасці. Потым наладжваліся гульні, атракцыёны. А ў канцы вечара пад радыёлу танцавалі дзяўчынкі з хлопчыкамі. Такія вечары зацікаўлівалі юнакоў і дзяўчынак. Праўда, некаторыя настаўнікі скептычна ставіліся да такой меры выхавання. Яны гаварылі:

— Танцулькі розуму вучням не прыбавяць.

Я-ж лічыў іх карысымі. Усё залежыць ад таго, як іх арганізаваць. Лепш правесці з вучнямі вечар адпачынку і цясней зблізіцца з імі, стаць для іх не толькі настаўнікам, але і старэйшым таварышам, чым даць ім магчымасць наведваць рознага роду вячоркі нямаведама дзе.

Стаць другам, старэйшым таварышам вучняў—вось галоўная задача класнага кіраўніка і кожнага настаўніка.

З сёмага класа я пачаў практыкаваць мерапрыемствы больш шырокага маштабу, якія ахапляюць усіх вучняў класа: выпуск фотаальбомаў па гісторыі Мінска, напісанне гісторыі класа. Мы збіралі выразкі з газет, фото, выпіскі і артыкулы з часопісаў па гісторыі горада. Асобным вучням было даручана напісанне артыкулаў пра свой клас. Частка вучняў разам са мной цэлы тыдзень з фотаапаратамі здымалі гістарычныя месцы Мінска. Пасля гэтага мы склалі прыгожыя фотаальбомы, праводзілі вечары, прысвечаныя гісторыі Мінска.

Вялікую ўвагу мы аддаем летнім паходам вучняў: яны выхоўваюць вытрымку, трываласць, аб'ядноўваюць калектыў, робяць яго дружным, згуртаваным. У леташнім годзе пасля экзаменаў я арганізаваў паход вучняў класа на возера Нарач. Мы прайшлі і праехалі больш як 400 кілометраў. Вучні азнаёміліся з біялагічнай станцыяй Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя Леніна, праслухалі там лекцыю пра жывёльны і раслінны свет возера, наведалі музей, зрабілі паход на возера Мядзель, наведалі помнік героям, якія загінулі ў барацьбе з нямецка-фашысцкімі акупантамі, пабывалі ў рыбгасе. Паход прайшоў цікава і арганізавана. Пасля мы наладзілі выстаўку, на якой экспанаваліся ўзоры парод каменняў, раслін і насякомых возера Нарач. Быў створаны і фотастэнд.

Нарачанскі паход з'явіўся штуршком для арганізацыі гуртка «Турыст», які ўзнік у верасні 1954 года. Аматараў турызму было больш, чым мы чакалі — каля 70 чалавек. Да нас цяпер далучыліся вучні IX і X класаў. На аб'еднанай нарадзе турыстаў мы выбралі старшынёй В. Макоўскага, казначэем А. Гаеўскага, сакратаром В. Панкавец, рэдактарам насценгазеты «Турыст» Т. Цвяткову. Рабяты вырашылі надыходзячым летам зрабіць паход у Крым. Распрацаваны маршрут: Мінск — Сімферопаль — Бахчысарай — Чатыр-Даг — Алушта — Гурзуф — Артэк — Алупка — Ялта — Севастопаль — Одэса — Мінск. Мы ўжо ў першым паўгоддзі правялі заняткі па арыентыроўцы на мясцовасці, рыбалоўству, санітарнай справе, паляванню, геалогіі і батаніцы. Вучні праводзяць экскурсіі па гораду і музеях, будуць здаваць нормы на значкі ГСА і БГПА. Перад паходам мяркуецца правесці пробную экскурсію ў раёне Мінска для здачы залікаў. Уся работа гуртка шырока асвятляецца ў насценгазеце «Турыст», у якой рэгулярна змяшчаюцца справаздачы аб рабоце гуртка, весткі па гісторыі флоры і фауны Крыма. Зараз нашы вучні завязалі перапіску з піонерамі Артэка, з вучнямі 15-й школы гор. Ялты, 24-й школы горада Бахчысарая. Вялікую дапамогу мне, як кіраўніку гуртка, аказвае актыў бацькоў, райком комсамола, дырэктар.

Мэта нашага будучага паходу — знаёмства з прыродай Крыма, трэніроўка маральных і фізічных якасцей і, галоўнае, — выхаванне пачуццяў дружбы, таварыскай еднасці, выхаванне свядомай моцнай дысцыпліны. Пасля паходу мы маем на ўвазе наладзіць у школе музей і, магчыма, напішам зборнік нарысаў пра паходы нашага класа.

З былым пятым «Б», а цяпер восьмым «А» класам я прайшоў трохгадовы шлях. За гэты невялікі час было ўсё: і ўзлёты, і падзенні, і перамогі, і горач паражэння. І зараз ідзе барацьба за свядомы і дружны калектыў, барацьба працяглая, штодзённая, на першы погляд, непрыкметная. Але радасна бачыць, як у цябе на вачах фармуюцца і выпрамляюцца характары, як растуць свядомыя, удумлівыя юнакі і дзяўчаты, здольныя апраўдаць высокую годнасць грамадзяніна краіны соцыялізма.




На палях яшчэ ляжыць снег, па начах трашчаць моцныя марозы, але ва ўсім адчуваецца подых вясны. Дзень робіцца ўсё даўжэйшым і даўжэйшым, усё часцей праясняецца неба і па яго яркаблакітнай гладзі плывуць лёгкія белыя воблачкі. Але подых вясны адчуваецца не толькі ў прыродзе. Загляньце сёння на сядзібы МТС, на калгасныя двары, у кузні, і па тым, што там робіцца, вы адчуеце ўладарны наступ вясны. Усюды з небывалым энтузіязмам калгаснікі, механізатары рыхтуюцца да веснавой сяўбы, да грандыёзнай барацьбы за высокі ўраджай 1955 года.

Сядзіба Ждановіцкай МТС Мінскай вобласці. Яшчэ год назад тут была пустэча. І вось па рашэнню партыі і совецкага ўрада сюды прышлі будаўнікі, механізатары, інжынеры, аграномы. За кароткі час былі пабудаваны гаражы, павеці для сельскагаспадарчых машын, складскія памяшканні, дамы для механізатараў, ваданапорная башня, цеплаэлектрацэнтраль, майстэрня для рамонту трактараў, камбайнаў, лёнацерабілак. МТС пачала дзейнічаць. Яе машыны слаўна папрацавалі летась на калгасных палях.

Як толькі трактары вярнуліся на сядзібу МТС, механізатары адразу-ж узяліся іх рамантаваць. Вялікую дапамогу ў рамонце сельскагаспадарчых машын аказвае комсамольская арганізацыя.








Камсамольцы — застрэльшчыкі ўкаранення перадавых метадаў працы, ініцыятары соцыялістычнага спаборніцтва за датэрміновае заканчэнне плана рамонту сельскагаспадарчых машын. Яшчэ ў пачатку года сакратар камітэта камсамола МТС Марыя Войтуль склікала пасяджэнне камітэта, каб абмеркаваць пытанне ўдзелу моладзі ў падрыхтоўцы да вясны. Гэтае-ж пытанне потым было абмеркавана і на агульным камсамольскім сходзе. Камсамольцы, маладыя механізатары ўзялі на сябе канкрэтныя абавязацельствы. Многія выкананне сваіх абавязацельстваў прысвячалі дню выбараў у Вярхоўны Совет БССР і мясцовыя Советы дэпутатаў працоўных.

Камсамолец Уладзімір Русак вызначыўся на рамонце машын з дызельным рухавіком. Усё ў яго атрымліваецца ладна, спорна і якасна.

— Вясна не за гарамі, — гаворыць Уладзімір. — Трэба працаваць так, каб потым не было перад калгаснікамі сорамна.

Спяшаецца выканаць свае абавязацельствы і трактарная брыгада № 6. Брыгадай кіруе камсамолец Уладзімір Хацько. А хіба можа адставаць брыгада, у якой брыгадзірам камсамолец? Механізатары старанна адрамантавалі трактары. І вось ужо Уладзімір Хацько разам са старшым трактарыстам Васілём Капаніцкім прыступілі да зборкі. Пройдзе некалькі дзён, і іх трактар выйдзе з дзвярэй рамонтнай майстэрні.

Часта ў гэтыя дні наведвае трактарыстаў галоўны інжынер МТС Павел Васільевіч Хоміч. Ён раіць механізатарам, як лепш рамантаваць тую ці іншую дэталь, сочыць за выкананнем графіка рамонту.

Але рамантуюцца не толькі трактары. У МТС багата іншай тэхнікі. Вось, напрыклад, камсамольцу-прычэпшчыку Яўгенію Петрусевічу было даручана адрамантаваць машыну для прыгатавання торфаперагнойных кубікаў. Юнак добра справіўся са сваім абавязкам.

Цэлы дзень у майстэрні чуваць шоргат жалеза, стук малаткоў, стракатанне матораў. Гэта механізатары заканчваюць падрыхтоўку да вясны. Хутка з сядзібы МТС пойдуць у калгасы трактары, пачнецца барацьба за новы ўраджай.

Вясна наступае. Гэта будзе вясна новага ўздыму сельскай гаспадаркі.

На здымках: уверсе — памяшканне майстэрні; унізе—Уладзімір Русак рэгулюе дызельны паліўны насос на стэндзе паліўнай апаратуры. На сярэдніх здымках: Яўгені Петрусевіч рамантуе машыну для прыгатавання торфаперагнойных кубікаў. Уладзімір Хацько (злева) і Васіль Капаніцкі за зборкай трактара. На здымках справа: П. В. Хоміч гутарыць з трактарыстамі камсамольцамі Аркадзем Трухановічам і Сцяпанам Вількавым. Унізе: пасяджэнне камітэта камсамола МТС.

**Фота Г. БЕГУНА** (Фотахроніка БЕЛТА) і **А. ДЗІТЛАВА**








Аляксандр МІРОНАЎ

**Урывак з рамана «Караблі выходзяць у акіян»**

Аляксей змяніўся з вахты, так і не ведаючы, дзе знаходзіцца судна. Чапляючыся рукамі за халодныя поручні, коўзаючыся па абледзянелай палубе, ён прабіраўся па жылым калідоры, а сам думаў пра словы, якія толькі што пачуў ад вахтавага памочніка Бурмакіна:

— Недзе на захад ад Шпіцбергена. Магчыма ў трох мілях, а можа і ў дваццаці. Хто яго разбярэ ў гэтай завірусе? Вецер, і снег, і плынь — усё супраць нас. Паспрабуй, вызначы...

Ныючы боль кальнуў сэрца: а раптам?.. Але аб гэтым «раптам» проста немагчыма было думаць...

«Валадарскі» па-ранейшаму ныраў з носа на карму, кланяючыся нізкім дымчата-чорным хмарам верхавінамі мачт, і, каб толькі не бачыць, не адчуваць бездапаможнага хістання яго, Маркевіч хутчэй нырнуў у жылы калідор. Тут было цішэй: гарэла святло, глуха даносілася завыванне ветру. Спехам памыўшыся, Аляксей забраўся на койку і пастараўся не думаць пра млоснасць, якая зноў падступала да горла.

Ён, здаецца, толькі-толькі забыўся ў поўдрымоце, гатовы бегчы на палубу па першаму клічу, як раптам страшэнны штуршок ледзь не выкінуў яго з койкі. Па палубе над галавой затупалі нейчыя ногі, пачуліся сумятлівыя, спалоханыя крыкі. Каюта хісталася так, што на падлозе, нібы жывыя, ляталі адзін за адным куфэрак Аляксея і фібравы чамадан Мішы Дамашнава, а цёмназялёная фіранка на ілюмінатары то падымалася да самага падвалоку, то зноў прыціскалася да бартавой абшыўкі. Не разумеючы, што адбылося, юнак сядзеў на койцы, прытрымліваючыся рукамі за яе барты, і здзіўлена глядзеў на падвалок: чаму там бегаюць, грукаюць нагамі, крычаць?

Другі ўдар, які страсянуў усё судна, здаўся яшчэ больш аглушальным. Халадзеючы ад страху — «тонем», — Маркевіч кінуўся з койкі, сяк-так апрануўся і выскачыў на палубу.

Вакол судна шалела непагода. На розныя галасы выў вецер, за бартом бушаваў акіян, пенныя грабяні хваль раз'юшана накідваліся на палубны груз, даляталі нават да хадавога мастка. У гэтым хаосе мітусіліся людзі, якія здаваліся бездапаможнымі, нікчэмнымі. Аляксей адчуў, як страх скоўвае, паралізуе яго: тонем! Ён не ведаў, што трэба рабіць, куды бегчы, дзе знайсці выратаванне ад ашалеўшага мора. «І нашто я толькі паехаў з Мінска? — мільганула думка. — Працаваў-бы цяпер на заводзе...

— Чаго стаіш? — пачуўся побач раззлаваны боцманаў голас. — Бяжы на кармавую палубу, дапамагай груз скідваць.

Гэта вярнула да рэальнасці: толькі-б не застацца аднаму са сваім страхам, толькі-б быць з людзьмі, рабіць, што робяць людзі! Ён пабег на карму, да трэцяга трума, і пачаў разам з матросамі, з качагарамі скідваць за борт цяжкія ваганеткі, рэйкі, лісты жалеза— усё, што траплялася пад руку. Людзі працавалі з азвярэннем, з лаянкай, з хрыпеннем, нібы ў іх пасяліўся д'ябал разбурэння, і палуба хутка вызвалялася ад грузу.

— Давай, давай! — праз завыванне ветру выгукваў Катлоў.

Колькі часу прадаўжалася так, Маркевіч не ведаў. Нехта ўзняў на мачце яркую электрычную люстру і адразу стала светла, а таму яшчэ больш страшна: пры святле люстры акіян суцэльнай, разлютаванай сцяной ішоў на судна. Маракі спрабавалі пазбягаць удараў хваль, плявалі горка-салёнай вадой і, падтрымліваючы адзін аднаго, прадаўжалі працаваць.

А ўдары, што грукаталі і сатрасалі ўвесь параход ад клоціка да кіля, паўтараліся зноў і зноў. З кароткіх выгукаў, з урыўкаў фраз Маркевіч зразумеў, што «Валадарскі» ў непрагляднай цемры збіўся з курса, натрапіў на падводныя камені, і вось цяпер яго б'е аб іх, дабівае мора. Руль ужо выйшаў са строю, папсаваліся, відавочна, і лопасці грабнога вінта, і хоць машына пакуль што працуе, але далей ісці нельга: наперадзе таксама рыфы.

— А калі назад? — спытаў Маркевіч у камсамольскага сакратара Дамашова, які быў побач.

— І ззаду камені, — пракрычаў той у адказ, — і з бакоў.

— Значыцца, усё? — адразу сумным голасам прамовіў Аляксей. — Значыцца, канец?

— Судна аблегчыць трэба. Для таго і груз кідаем. Аблегчым, перастане кідаць. «Канец, канец», — перадражніў Міхаіл. — Ты яшчэ панікаваць надумайся!

Толькі цяпер ліхаманкавая работа экіпажа набыла для Маркевіча пэўны сэнс. Не, гэта не паніка, не разгубленасць людзей, якія страцілі галаву. Капітан Немчынаў ведае, што трэба рабіць, калі загадаў скідваць за борт палубны груз.

Стала сорамна і — больш спакойна: выходзіць, панікаваў толькі ён адзін. Аляксей раптам адчуў, што ўдары корпуса аб падводныя камені сталі слабейшымі: мабыць, аблегчаны параход сапраўды прыўзняўся над банкай. Мусіць таму юнака не спалохала паведамленне аб новай бядзе, што пагражала «Валадарскаму»: праз прабоіны ў трумы пачала паступаць забортная вада, а донкі не паспяваюць адкачваць яе. «Прыдумае, — з нечаканай упэўненасцю падумаў ён пра капітана, — вядома, прыдумае. Не можам-жа мы загінуць!» Боцман паклікаў яго, паслаў на масток: кліча Бурмакін.

На мастку было цямней, чым на кармавой палубе: святло люстры не дасягала сюды. Але і ў змроку Маркевіч убачыў, што тут сабраўся амаль увесь камандны састаў карабля. Людзі часам кідалі кароткія фразы, і ні ў аднай з іх не адчувалася ні разгубленасці, ні страху.

— Так і ёсць, — выходзячы з штурманскай рубкі, сказаў Іван Купрыянавіч, — дрэйфам нас аднесла ад курса на тры мілі на ўсход. Трапілі на банкі ля ўваходу ў Айс-фіорд. Як вада ў трумах?

— Маркевіч, змерайце! — даў распараджэнне Бурмакін.

Аляксей збегаў на палубу, жалезным стрыжнем на вяроўцы вымераў праз спецыяльныя трубы глыбіню вады ў трумах і, вярнуўшыся на масток, далажыў.

— Крыху павялічылася, — сказаў Немчынаў, і голас яго прагучаў здзіўляюча спакойна. — Аляксандр Сцяпанавіч, як помпы?

— У парадку, — гэтак-жа спакойна адказаў старшы механік Сімакоў. — Машыністы не адыходзяць ад іх. Пара ў катлах на «марцы».

— Добра, — зноў пачуўся голас капітана. — Павел Пятровіч, спыніце скідваць груз, але на ўсякі выпадак падрыхтуйце шлюпкі. Ды і люстры трэба было-б узняць на абедзьвух мачтах.

— На гроце гордзень парваўся, — сказаў Бурмакін, — давядзецца лезці.

— Пашліце... — пачаў Немчынаў, але Аляксей, нечакана для самога сябе, падскочыў да яго:

— Дазвольце мне!

— Што? — не зразумеў Іван Купрыянавіч.

— Нельга, — умяшаўся Бурмакін. — Гэта абавязак вопытнага матроса, матроса першага класа. Скажыце боцману...

— Ідзіце! — перапыніў капітан. І цішэй, цяплей дадаў: — Толькі асцярожна, Лёша, не сарвіся.

Акрылены гэтым давер'ем, цеплынёй у голасе старога марака, Маркевіч паімчаў на палубу. Боцман выслухаў яго, коратка кінуў: «Лезь!» — і таксама дадаў:

— Глядзі, не сарвіся: блін!..

Ён сам прыладзіў за плячыма Аляксею люстру так, каб наверсе зручна было яе зняць. Уздыхнуўшы, як перад скокам у ваду, юнак узяўся рукамі за перакладзіны металічнага трапа і хутка, спрытна, не гледзячы ўніз, пакарабкаўся на мачту. З кожнай ступенькай хістанне станавілася мацнейшым. Аляксей моцна браўся за халодныя пруты трапа. Вось і лапіны, тут можна перадыхнуць: няхай адпачнуць знямеўшыя рукі. А што будзе, калі паглядзець уніз? Маркевіч прымусіў сябе паглядзець на палубу, дзе былі відны зусім маленькія людзі, і далей — за борт, на раз'юшанае мора. Ён нават усміхнуўся, не адчуўшы страху. Было толькі халаднавата недзе пад сэрцам і чамусьці задзірыста весела, нібы перад бойкай.

Яшчэ хвіліна, і малады матрос пакарабкаўся далей. Вось і пляцоўка клоцікавага ліхтара, вось і клоцік. Засталося прымацаваць да яго люстра — намёртва, каб не сарвалася, і ўсё...

— Уключай! — крыкнуў Аляксей. І, пачакаўшы, пакуль успыхнулі лямпачкі ў люстры, хутка падаўся ўніз.

Доўга цягнулася гэта цяжкая ноч. Вада ў трумах то прыбаўлялася, то зноў ішла на спад. Сіла шторму набліжалася да адзінаццаці балаў, і радыст усё часцей дакладваў аб сігналах няшчасцяў, якія ён вылаўліваў у эфіры. Ніхто не ішоў адпачываць: у кожную хвіліну маглі спатрэбіцца намаганні ўсяго экіпажа. Толькі тады, калі памутнеў гарызонт ад світання, капітан загадаў адпусціць на адпачынак знясіленых падвахценных.

Аляксей таксама пайшоў у каюту: вахта яго прайшла ў змаганні за жыццё карабля. І толькі ён лёг на разасланую на палубе ватовую куртку, толькі задрамаў, як зноў быў разбуджаны крыкамі і тупатам над галавой. Накінуўшы куртку, на хаду зашпільваючы гузікі, ён пабег па калідоры і адчыніў знадворныя дзверы.

Было амаль цёмна: ці то дзень не паспеў надыйсці, ці, наадварот, вечар ужо наступіў. Вецер, здаецца, стаў цішэйшым, хістанне судна меншым. Але не гэта ўзрадавала маладога матроса: на гарызонце, мілі за тры ад «Валадарскага», былі бачны агні, — цэлае мора агнёў, нібы вырас там вялікі, заліты святлом горад!

— Бачыў? — праходзячы міма, усміхнуўся Катлоў. — Шторму крышка, вось і зляцеліся, як каршуны.

— Хто? — не зразумеў Маркевіч.

— Ды англічане-ж, тральшчыкі. Сем штук. Мы выклікалі «Селяніна» з Шпіцбергена, а гэтыя падслухалі размову, і — тут як тут. Ласыя да лёгкай нажывы, шэльмы! Глядзі, глядзі, сюды топаюць!

І сапраўды, два тральшчыкі аддзяліліся ад каравана. Асцярожна лавіруючы паміж каменных глыб, што высоўваліся з вады, яны пачалі набліжацца да «Валадарскага». Хутка можна было разгледзець іх назвы, якія вялікімі літарамі былі выведзены на носе. «Капель» — бялела на адным, а на другім — «Саувей Ферз». Невялікія рухавыя нізкабортныя караблікі падскоквалі на крутых хвалях, то ўзнімаючыся ўровень з бартом «Валадарскага», то правальваючыся ў глыбокія лагчыны паміж вадзяных валоў. На маленькім мастку пярэдняга, — «Саувей Ферза»—была бачна кароткаморгая, падобная на бочку, постаць капітана з металічным рупарам. Нецярпліва пакручваючыся на шырока расстаўленых нагах, ён паднёс мегафон да роту і штосьці закрычаў ахрыплым, гаўклівым голасам у бок «Валадарскага».

Аляксей пабег на масток: толькі там можна дравідацца ў чым справа.

— Вось падмога, а? — пачуў ён голас і смех Немчынава. — «Кідэйце, кажа, судна, пераходзьце да мяне на борт. Сцягваць з банкі не будзем, а вам самім не зняцца адсюль». Мы, значыцца, пакідай судна, а яны яго здымуць і, калі ласка, — поўныя гаспадары і «Валадарскага», і грузаў! Не, паны: судна мы не кінем!

Ён паднёс мегафон к губам і зычна, сакавіта, з яўным задавальненнем сказаў па-англійску адну толькі фразу, адрасаваную таўсцяку на тральшчыку. Гэтую фразу Маркевіч многа раз чуў ад Дзедова. У ёй было ўсё: і пажаданне праваліцца ў тартарары, і ўспамін аб родзічах кароткаморгага аж да дзесятага калена, і асабістая немчынаўская думка аб самім англійскім капітане, аб яго судне і камандзе. Маленькі капітан аж падскочыў ад нечаканасці на сваім масточку-куратніку, затрос узнятымі кулакамі, узняў лаянку і, адштурхнуўшы рулявога, сам стаў да штурвала. «Саувей Ферз», а за ім і «Капель» пайшлі прэч, праводзімыя дружным рогатам усёй каманды «Валадарскага».

— Стой! — прамовіў Немчынаў, калі тральшчыкі зніклі. — Цяпер за работу: зараз падыйдзе «Селянін».

Лічаныя мінуты спатрэбіліся маракам, каб падрыхтаваць судна для буксіроўкі. Замест разбітага руля выпусцілі за карму на доўгім сталёвым тросе звязку бярвенняў, праверылі буксірны канат. І калі «Селянін» марудна, асцярожна наблізіўся да аварыйнага парахода, экіпаж «Валадарскага» хутка падаў яму тоўсты і трывалы буксір.

Гэтак-жа марудна і асцярожна караблі папаўзлі ў адваротны шлях сярод рыфаў. Метр за метрам прасоўваліся яны далей і далей да чыстай вады. З тральшчыкаў наглядалі за імі сотні вачэй, якія прагнулі здабычы, але ні адзін «англічанін» не падумаў прыйсці на дапамогу. «І не трэба, — праз зубы працэдзіў Аляксей, — не трэба. Самі ўправімся, абыйдземся і без вас». Ён ганарыўся сваім караблём, таварышамі сваімі, самім сабой: «Перамаглі шторм — і тут абыйдземся без вас, жываглоты!»

Разы са два «Валадарскага» яшчэ лёгка драпанула аб падводныя камені, але вось ужо «Селянін» дадаў ходу, пераможна прагудзеў басавітым гудком: «выбраліся!» На абодвух караблях пракацілася шматгалосае «ура!»

Нібы спалоханыя пераможным клічам, тральшчыкі хутка зняліся з якараў і поўным ходам панесліся прэч ад месца, дзе на гэты раз іх сустрэла не здабыча, а поўны, з трэскам, правал...

— Павел Пятровіч! — паклікаў капітан Немчынаў. — Загадайце падняць сігнал: «Шчаслівага плавання!»

— Ёсць!—засмяяўся Бурмакін, зразумеўшы, якую штуку прыдумаў няўрымслівы іх «стары», і сам кінуўся да шафы з сігнальнымі флагамі. Праз хвіліну на мачце «Валадарскага» ўзвіліся яркія флагі. Англічане не адказалі, зрабілі выгляд, што не заўважылі сігналу, якім прынята ў маракоў усяго свету праводзіць добрых сяброў.

А яшчэ праз дзве гадзіны, прайшоўшы на буксіры «Селяніна» па ўсяму пакручастаму, доўгаму Айс-фіорду, «Валадарскі» адшвартаваўся каля невялікай драўлянай прыстані далёкага арктычнага горада Грын Гарбург.

Цяжкі штормавы рэйс быў закончаны.

**Пераклад з рускай мовы.**

Мал. А. Волкава.





# НА КОМСАМОЛЬСКАЙ БУДОЎЛІ

Ідзе снег. Яго белыя халодныя калючкі вецер кідае ў твар, забівае за каўнер. Малады цясляр з ружовым вясёлым тварам перапыняе працу, каб перадыхнуць і паглядзець навакол. З высокай вежы, якую ён абшывае, добра відаць, як становіцца белай зямля, узараная ўчора на пляцоўцы галоўнага цэха, як бялеюць дахі суседніх будынкаў. І нават паравоз, што выпадкова спыніўся ля каменнай агарожы будоўлі, хутка становіцца стракатым ад снегу, які наліп на яго цёплыя бакі.

— Аб чым задумаўся, Віктар? — даносіцца знізу голас. На пляцоўку да цесляра паднімаецца брыгадзір. — Гэта зноў зіма, ці што?

— Выходзіць, што так! — Віктар выцірае мокры ад снегу твар. — Але толькі здачу нам з-за гэтага не адтэрмінуюць. У красавіку абавязкова трэба завод пускаць! Учора аб гэтым на комсамольскім сходзе сур'ёзная размова была. І я вось пра што думаю, Антон Пятровіч. Хай-бы вы мне дні на тры ўперад работу растлумачылі: зручней будзе размеркаваць!

Брыгадзір дастае з-за пазухі вялікі чарцёж і, не баючыся, што ён можа размокнуць пад снегам, раскрывае яго перад цесляром.

— Правільна гаворыш... Глядзі сюды...

З кожным днём набліжаецца да канца будаўніцтва Мінскага завода жалезабетонных вырабаў. Пройдзе яшчэ месяц-паўтара, і завод пачне даваць прадукцыю будоўлям рэспублікі.

На здымку: будаўнікі Мінскага завода жалезабетонных вырабаў—цясляр-комсамолец Віктар Коршун (справа) і брыгадзір А. П. Садоўскі.

**А. СЯРГЕЕУ.**

# НА РАДЗІМЕ ГОРКАГА

Шырока раскінуўся на беразе Волгі горад Горкі. Размешчаны ў маляўнічым месцы, дзе Ока ўпадае ў Волгу, ён то крута падымаецца ўверх звілістымі вузкімі вуліцамі, якія тут завуцца з'ездамі, то імкліва спускаецца ўніз, да спакойнай, велічнай ракі. Тут, у гэтым горадзе, нарадзіўся вялікі совецкі пісьменнік Аляксей Максімавіч Горкі.

З таго часу прайшло 86 год. Зараз няма ўжо таго старога купецкага Ніжняга Ноўгарада, пра які Горкі пісаў, што ў ім «дамы каменныя, а людзі — жалезныя». За гады совецкай улады змяніў сваё аблічча старажытны рускі горад.

Узводзячы новыя заводы, электрастанцыі, тэатры, палацы культуры, жылыя дамы, гаркаўчане беражліва, як найкаштоўнейшыя рэліквіі, ахоўваюць старыя драўляныя домікі, у якіх некалі жыў Аляксей Максімавіч Горкі.

У горадзе налічваецца каля 40 мясцін, проста ці ўскосна звязаных са шматграннай дзейнасцю заснавальніка совецкай літаратуры. Тут, у непрыкметным доміку на ціхай Каваліхінскай вуліцы, ён нарадзіўся. На Успенскім з'ездзе, Канатнай, Напольнай і Нова-Сеннай вуліцах прайшло яго маленства, тут ён упершыню спазнаў увесь цяжар жыцця «ў людзях», тут прышла да яго і першая слава пісьменніка.

Гады маленства Горкага прайшлі ў доміку на Паштовым з'ездзе. У гэтым доміку будучы пісьменнік упершыню спазнаў «свінцовыя агіднасці» старога быту, адчуў затхлую абстаноўку мяшчанскай сям'і. Тут-жа, у доме дзеда, Алёша Пешкоў упершыню пачуў цудоўныя казкі і песні сваёй бабулі, якія нараджалі ў сэрцы хлопчыка імкненне да лепшага жыцця, а таксама гарачую любоў да народнай творчасці, якую ён пранёс праз усё сваё жыццё.

У 1937 годзе ў былым доміку Кашырына быў адкрыты бытавы музей «Маленства Горкага». Тут усё аднаўлена ў такім выглядзе, як было 80 год таму назад. Ля ўваходу ў дом — палісаднік, побач — старадаўні газавы ліхтар. У глыбіні двара невялікі драўляны будынак з маленькімі вокнамі. Гэта — фарбавальня дзеда Горкага — Кашырына. Праз цьмяныя вокны відаць медныя чаны, у якіх афарбоўваліся тканіны. Калі ўгледзішся ва ўсё гэта, здаецца, што вось зараз адчыняцца дзверы фарбавальні і адтуль выйдзе стары падслепаваты майстар Грыгорый Іванавіч, выбежыць вясёлы Цыганок; нябачны чалавек запаліць печ фарбавальні і скажа страшныя словы: «сандал-фуксін-купарос», якія так здзівілі некалі маленькага Алёшу Пешкова.

У левым баку двара размешчаны дом. Вось перад намі кухня, якая была цэнтрам гэтага дома. Большую яе палову займае вялікая руская печ, з вышыні якой маленькі Алёша з жахам наглядаў за сваркамі дзеда з сынамі Міхаілам і Якавам, якія настойліва патрабавалі раздзелу маёмасці. Ля акна — вялікі абедзенны стол, за які садзіліся ўсе 15 чалавек — сям'я Кашырыных. Ля дзвярэй — лаўка, а побач з ёю — цэбар. У ім мачылі дубцы. Па суботах на кухні адбывалася лупцоўка дзяцей. Вінаватага клалі на лаўку тварам уніз, прывязвалі мокрым ручніком і збівалі да непрытомнасці.

З кухні дзверы вядуць у пакой дзеда. У ім поўнасцю аднаўлена абстаноўка, характэрная для главы кашырынскай сям'і. Уздоўж сцен пакоя, засланага палавікамі, стаяць старадаўнія крэслы, ля процілеглай сцяны — горка з пасудай, побач — каваны сундук. У правым куце — дубовая шкатулка, у якой дзед захоўваў каштоўныя паперы і грошы. Над ёю — ікона з лампадай. На стале — каляндар, дзе запісана, якому святому калі маліцца, банка з-пад памады, якая замяняла дзеду чарніліцу, гусінае пяро. Ля дзвярэй на вешалцы вісіць абшыты пазументамі кафтан цэхавага старшыны, падараваны Кашырыну.

Дзверы злева вядуць у пакой бабулі. Больш паловы гэтага пакоя займае шырокі ложак з гарой падушак і ватовай коўдрай. Насупраць іконы з незгасальнай лампадай, перад якімі Акуліна Іванаўна малілася свайму «добраму богу». Паміж сценкай і ложкам — сундук, на якім спаў маленькі Алёша. Побач з сундуком — коклюшкі, маленькія палачкі для пляцення карункаў. Часта бабуля, седзячы над сваімі карункамі, расказвала Алёшу цудоўныя казкі або спявала песні, якіх ведала вельмі многа.

Увесь гэты дом з яго нізкай столлю, мяшчанскай абстаноўкай робіць цяжкае ўражанне. Не выпадкова, як расказвае адзін з ніжагародскіх сяброў пісьменніка, заснавальнік бытавога музея Горкага Ф. П. Хітроўскі, адзін вясковы хлопчык, які прайшоў 40 вёрст пехатою, каб паглядзець домік, дзе рос Алёша Пешкоў, сказаў:

— Добра, што цяпер няма такога жыцця.

Музей наведваюць не толькі дзеці. За 17 год тут пабывала каля паўмільёна чалавек. Часта тут бываюць замежныя дэлегацыі. Кніга запісаў запоўнена радкамі на многіх мовах свету. Венгерскі кампазітар Пал Кадоша запісаў: «Усхваляваны ўспомніў я дзіцячыя гады Горкага». Школьнікі V класа адной з горкаўскіх школ пішуць: «Мы будзем такімі добрымі, як Горкі, мы будзем гэтак-жа любіць Радзіму, як любіў яе Аляксей Максімавіч Горкі».

Акрамя доміка Кашырына, у горадзе беражліва захоўваюцца многія другія горкаўскія мясціны.

У раёне Канавіна, на былой Елізавецінскай вуліцы (цяпер Комуністычная), у доме № 25 знаходзілася слабадское канавінскае вучылішча, у якім вучыўся Алёша Пешкоў. Тут-жа, у Канавіне, захаваўся дом, дзе жыў Алёша Пешкоў разам з дзедам, бабуляй і маці. Тут 5 жніўня 1879 года памёрла яго маці, і неўзабаве пасля яе смерці дзед сказаў унуку:

«Ну, Лякеей, ты — не медаль, на шыі ў мяне — не месца табе, а ідзі-ка ты ў людзі...»

І ў 1879 г. Алёша Пешкоў пашоў «у людзі».

На многіх дамах горада прымацаваны мемарыяльныя дошкі, якія расказваюць пра гэты перыяд жыцця вялікага пісьменніка.

Рад мясцін у горадзе захоўваюць памяць аб першых літаратурных поспехах М. Горкага.

Вось дом па вуліцы Караленкі, былы дом Лемке па Канатнай вуліцы. Тут жыў Горкі ў 900-я гады, ужо будучы вядомым пісьменнікам. Сюды да яго прыязджалі А. П. Чэхаў, Ф. І. Шаляпін, Н. Г. Гарын-Міхайлоўскі, кіраўнік МХАТ В. І. Неміровіч-Данчанка, С. Г. Петроў (Скіталец) і другія. Тут Аляксей Максімавіч працаваў над п'есай «На дне».

У гэтым доме частым госцем Горкага быў вядомы беларускі этнограф Адам Юр'евіч Багдановіч. Ён пакінуў вельмі цікавыя ўспаміны пра А. М. Горкага, у якіх падрабязна расказваў аб ніжагародскім перыядзе жыцця вялікага пісьменніка. Разам з А. Ю. Багдановічам у гасцях у Горкага бываў і вучань ніжагародскай мужчынскай гімназіі Максім Багдановіч — будучы вядомы беларускі паэт.

Пакінуў Ніжні Ноўгарад Горкі ў снежні 1904 года. У 1928 годзе, вярнуўшыся пасля лячэння з-за мяжы ў Совецкі Саюз, ён наведаў родны горад, пабываў на многіх прадпрыемствах, сустракаўся і гутарыў з рабочымі, выступаў у Ніжагародскім тэатры на вечары, наведаў мясціны, дзе прайшло яго маленства і юнацтва. 10 жніўня 1928 года Горкі пакінуў горад, але сувязі з ім не губляў да апошніх дзён свайго жыцця. Ён часта пасылаў пісьмы сваім землякам.

На адной з плошчаў горада Горкага ўзведзены помнік чалавеку, імя якога носіць горад. На высокім пастаменце — скульптура юнага Горкага. Вецер расхінае полы яго крылаткі, высока ўзнята галава, а задуменны погляд накіраваны ўперад, на Волгу. Там, ля Адхона, дзе любіў гуляць Аляксей Максімавіч, у вячэрнім змроку дыяментамі ззяюць прыбярэжныя агні і ліхтары параходаў, а Волга, якая ў начной цішыні і змроку здаецца аксамітнай, нясе свае воды да Каспія, як і ў часы Горкага. Але новыя людзі жывуць на яе берагах. У сэрцах гэтых людзей заўсёды захоўваецца памяць аб іх вялікім земляку.

г. Горкі.

Н. ЛАПІДУС.





На здымках: 1. Агульны выгляд дома Кашырына. 2. Куток кухні ў гэтым доме.



Зноў, як і летась, шумна на вакзалах. Пероны запоўніла моладзь. Гэта едзе на цаліныя землі новае папаўненне. У юнакоў і дзяўчат радасныя твары. Ды і як не радавацца, калі выпала такая вялікая чэсць быць у першых радах шматтысячнай арміі барацьбітоў за новы ўздым сельскай гаспадаркі.

На здымку: комсамольцы Мінска і Мінскай вобласці ад'язджаюць на цалінныя землі ў Казахстан.

Фото М. Мінковіча.

## ЧАКАЕМ ВАС НА ЦАЛІНЕ

**Дарагія землякі!**

Шлю вам сваё прывітанне з казахстанскіх зямель, з соўгаса Джамбульскага Карашульскага раёна Кустанайскай вобласці.

Я атрымліваю шмат пісем з Беларусі. Моладзь цікавіцца, як мы працуем, як жывем, чаго мы дамагліся за год. Вось зусім нядаўна я атрымаў ліст ад комсамольцаў Алы Гужвы, Тані Чумаковай і Зіны Рыбаковай з Кармянскага раёна Гомельскай вобласці. Яны хочуць ведаць, ці патрэбны яшчэ рабочыя ў нашым соўгасе, якія ў нас умовы жыцця і працы. Паспрабую расказаць, хоць у кароткім пісьме пра ўсё не раскажаш.

Папрацавалі мы гэты год нядрэнна. План уздыму цаліны перавыканалі, ураджай атрымалі добры. У нашым соўгасе шмат першакласнай тэхнікі: трактараў, сельскагаспадарчага інвентару. Вядзецца і вялікае жыллёвае будаўніцтва. Так што рабочых рук трэба яшчэ шмат.

А цяпер пра тое, як мы жывем. Наш соугас, хоць размешчаны і далёка ад горада, але культурная раоота тут пастаўлена не горш, чым была ў нас на заводзе, у Гомелі. Рэгулярна дэманструецца кіно, вечарамі ў клубе мы наладжваем танцы, гуляем у шашкі, даміно, шахматы. Акуратна атрымліваем газеты і часопісы. У нас вялікая бібліятэка, чытаем кнігі, вучымся. Амаль у кожнай кватэры ёсць радыёпрыёмнік або радыёкропка. Мы арганізавалі нават гурток кройкі і шыцця, які ахвотна наведваюць соўгасныя модніцы. Хлопцы больш цікавяцца паляваннем. Дзічыны тут шмат, па нядзелях аматары-паляўнічыя ідуць на паляванне. Добра працуе наш гурток мастацкай самадзейнасці. Гурткоўцы падрыхтавалі ўжо некалькі спектакляў для рабочых соўгаса.

Некаторыя цікавяцца, які ў нас заробак. Летам механізатары штомесяц зараблялі па 3 — 3,5 тысячы рублёў, будаўнікі — па 2 тысячы і больш. Так што заработкі ў нас добрыя.

Прыязджайце да нас, сябры! Будзем разам змагацца за новыя поспехі, за новыя высокія ўраджаі.

Ваш зямляк
Васіль АНДРЫЯНЕЦ.

К. МУРАДЗЯН




# АГНІ ЕРЭВАНА

Нарыс

З Канакерскага схілу пачынаецца сапраўднае мора агнёў, якое разліваецца далёка-далёка і, злучыўшыся з агнямі суседніх раёнаў, абрываецца толькі на беразе Аракса. І не трэба ехаць да Аракса, каб пабачыць поўднёвую дзяржаўную граніцу нашай Радзімы, — граніца там, дзе канчаецца святло і пачынаецца цемра.

І змрок на тым беразе прасціраецца таксама далёка, — ад барага Аракса да самага... акіяна.

«Ерэван» — напісана на слупку, які стаіць на ўзбочыне шашы, за сялом Канакер, што ў дзесяці кіламетрах ад горада. «Ерэван» — напісана каля пасёлка ў кветках Малацiя. Тут у 1927 годзе быў пустыр. Наша сям'я пераязджала ў горад. Супакойваючы нас, дзяцей, бацька гаварыў тады: «Ужо блізка, праз тры гадзіны будзем у Ерэване»...

Колькі тут цяпер агнёў, колькі новых праспектаў і вуліц!

Зараз у Ерэване ідзе будаўніцтва на плошчы амаль 190 000 квадратных метраў — гэта прыкладна роўна ўсёй плошчы, якую горад меў да савецкай улады.

Ерэван славіцца не толькі будаўніцтвам. «Ерэван» — гэта слова можна прачытаць на генератарах, трансфарматарах і турбінах, на маторах і станках. Звыш 400 відаў прамысловай прадукцыі выпускаецца тут, у горадзе, які існуе трынаццаць вякоў, а вядомы стаў толькі ў савецкі час.

Агні Ерэвана... Колькі тут святла! Колькі праменняў, і адзін з іх падае на карту перад чалавекам, які сядзіць за сваім рабочым сталом.

— А якая вуліца будзе тут?

Зморшчына перасякае лоб старшыні горсовета — ён незадаволены пытаннем. Ён наогул пераканаsuccessful у тым, што аб'ект размовы трэба пабачыць, разгледзець самому, замест таго, каб распытваць аб ім у іншых.

— Гэта — вуліца Таманцаў, — стрымана адказвае ён. — Раіў-бы вам прайсціся па ёй, уважліва ўсё агледзець.

Вуліца Таманцаў — сёмая вуліца, якую назваў мне сёння старшыня, і якой я не ведаю. Сем новых вуліц толькі ўсяго за год, на працягу якога я не быў у сваім родным горадзе!

А старшыня горсовета скупа пералічвае аб'екты, аб'екты і лічбы.

Ерэван. Будынак Міністэрства прамысловасці харчовых тавараў на плошчы Леніна.

Фотахроніка ТАСС.



За гады, якія прамінулі пасля Вялікай Айчыннай вайны, насельніцтва Ерэвана павялічылася ўдвая, а тэрыторыя горада — у тры разы. З'явілася густая тралейбусная сетка, мноства аўтобусаў, таксі...

— Новыя вуліцы? Іх цяжка пералічыць. Прайдзіце па гораду, паглядзіце: Прышана, Таманцаў, Камітаса, павялічыўся ўздоўж праспект імя Сталіна, вуліца Маркса, Маскоўская, вырасла вуліца Тэрана, з'явілася новая дарога на правым беразе Зангу...

— Новыя дамы? У гэтым годзе іх вырасла на трэць больш, чым у мінулым. Будуюцца сотні новых, сярод якіх: сховішча старажытных рукапісаў, будынак гасцініцы і Палаца працы, тры новыя крытыя рынкі, будынак Акадэміі, Дзяржаўнага універсітэта, вакзала... Дзве новыя вуліцы ў Сталінскім раёне будуць толькі з новых будынкаў.

— Новыя скверы, паркі? Парк Камсамола, Парк імя Кірава, і парк пры Дзіцячай чыгунцы, парк Сталінскага раёна, Парк імя Айчыннай вайны, велізарны парк на беразе Зангу...

— Новыя пасёлкі?.. Зайтун, Верхні Норк, Сарытаг, тры пасёлкі: Арэша, Кілікія, Новы Арабкір, пяць новых пасёлкаў у раёне Шаумяна.

— Масты?.. Усе яны новыя! Адны ўжо адбудаваны, другія будуюцца.

— Помнікі і манументы?.. Манумент Сталіна, помнік Абавяну, Нелісону Сцепаняну, Кіраву, Спендзіяраву, Туманяну...

— Школы?.. Кожны год — дзесяць школ!

— Індывідуальныя дамы?.. Адзінаццаць тысяч. Гэта на працягу апошніх пяці год.

Я слухаю пра небывалы размах будаўніцтва, пра механізацыю на будоўлі, пра каменедрабілкі і бульдозеры, пра экскаватары і краны, захапляюся непахіснай упэўненасцю кіраўнікоў будаўніцтва, якія гавораць, што і сёння і заўтра, і заўсёды на зямлі будзе мір, мірная праца, мірны рост краіны. А Ерэван — не проста горад. Гэта — амаль граніца. Сюды ўглядаюцца праз бінокль з таго берага Аракса ворагі — няпрошаныя заморскія гаспадары аэрадромаў.

Я слухаю старшыню горсовета і ганаруся ім, бадай, не менш, чым родным горадам. Горад расце шпарка, пераменіўся непазнавальна! Але як змяніўся і ён, былы батрак і грузчык, старшыня гарадскога совета — Егішэ Варданян!

Варданяну ледзь мінула пятнаццаць год, як туркі спалілі іх дом, і тут-жа, на папялішчы, забілі яго бацьку. Разам з маткаю хлопчык накіраваўся на Кубань, па дарозе наймаючыся ў батракі, у грузчыкі, толькі-б прахарчаваць сябе і пастарэлую ад гора маці. Але дзе-б ён ні быў, што-б ні рабіў, — адна мара жыла з ім. Гэта была мара чалавека, пазбаўленага прытулку — дома. Яго напаўняла прага будаваць дамы. Егішэ Варданян насіў у сваім сэрцы мару цэлага народа. І вось настаў час, калі армянскі народ атрымаў зямлю, волю, — усе магчымасці ажыццявіць свае мары. Аднак мара аб сваім доме, аб сваім прытулку перарасла,ператварылася ў мару аб добрабыце ўсіх людзей.

Пачынаючы з тысяча дзевяцьсот дваццатага года ў Савецкай Арменіі пачаў тварыцца сапраўдны цуд. І адным з такіх цудаў паўстае перад намі сёння сталіца — Ерэван.

... Арменія! Высокагорная краіна, якая здаўна была багатая не чым іншым, як каменем. Камень розных парод, розных колераў, рознай трываласці. Не краіна, а музей будаўнічага каменю... Краіна, жыхары якой воляю самой гісторыі станавіліся каменячосамі, вялікімі майстрамі апрацоўкі каменю... Ніколі не забыць мінулага! Колькі слаўных сыноў Арменіі загінула, і ў гэтай багатай каменем краіне нават не знайшлося такога каменя, які адзначыў-бы іх магілы. Чаму тут усе дамы былі з гліны, закапаныя ў зямлю, як норы кратоў? Чаму каменныя дамы належал толькі богу ды багацеям? Трынаццаць вякоў з каменя будаваліся толькі манастыры, а потым казармы з чорнага туфу. Туркі і дашнакі зруйнавалі і гэтыя каменныя будынкі, — не засталося нічога. Трыццаць тры гады таму назад армянскі народ атрымаў у спадчыну ад мінулага краіну, багатую каменем, але якая не мела ніводнага каменнага будынка, — адны руіны!

Маладому грузчыку Егішэ Варданяну не трэба было задзіраць галаву ўгору, каб акінуць позіркам нейкі дом. Не, ён бачыў тады зямлянкі, хібаркі, развалiны.

Ад старога Ерэвана зараз нічога не засталося. Але калі і можна пашкадаваць што-небудзь з мінулага, дык гэта маленькі

гліняны домік, дзе акадэмік Таманян, хаваючы сваю работу ад дажджу, вычэрчваў план новага Ерэвана. Гэты план тады многім здаўся неажыццявімым, а самога архітэктара назвалі пустым фантазёрам...

...Цяпер стары каменячос Геворг Абгаран на хвіліну адрываецца ад работы і глядзіць з вышыні будоўлі на вуліцу Леніна, на велізарны горад. Туф, з якога пабудавана тут большасць новых будынкаў, пераліваецца на сонцы ўсім багаццем сваіх адценняў — бэзавы, ружовы, чырвоны, жоўты, чорны... Я ўяўляю сабе шчасце старога каменячоса — гледзячы на горад, знаходзіць усюды часцінку сваёй працы. Уласнае жыццё, увасобленае ў дамы, збудаванні, помнікі — паўстае перад яго позіркам.

Стары падымае акуляры на лоб. Ён глядзіць на горад і ківае галавой.

— Сам пабудаваў і сам дзіўлюся, — задуменна кажа ён. — Быццам цуд які...

Пад рукамі Абгарана камень ажывае... Вось у каменнай лані з'явілася і другое вуха. Удар за ўдарам, і ўзнікае горны ручаёк, і ўжо ўяўляецца, што перада мной не цвёрды камень, а пеністая вада.

— Ведаеце, — кажа Абгаран, — вярнуўся на радзіму Салацян, таксама каменячос, дык ён, ці паверыце, у дваццаць першы раз прыняўся для сябе дом будаваць. Дваццаць дамоў чалавек сваімі рукамі склаў для сябе на чужыне. І ніводзін не ўцалеў! Той — вайна разбурыла, той — пажар знішчыў, той — давялося кінуць пры ўцёках... Вось ён і папрасіў мяне на сваім дваццаць першым доме выразаць сцяг з сярпом і молатам. «Тады, кажа, я буду ўпэўнены, што ўжо нічога з маім домам не здарыцца. Пад такім сцягам будзе ён стаяць вякі, ніхто на яго не асмеліцца пасягнуць!..»

Аднойчы старшыня горсовета сказаў замежнай дэлегацыі, якая наведала сталіцу Совецкай Арменіі:

— Аглядзіце Стары Ерэван і Ерэван Новы. Такі агляд вам многае скажа.

Пасля працяглай экскурсіі па гораду дэлегаты здзіўлена запыталіся:

— Вы сказалі пра Новы і Стары Ерэван, але дзе-ж ён, Стары Ерэван? Нам так і не ўдалося пабачыць яго!

Тады дэлегацыю адвезлі ў Конд — тую частку горада, у якой яшчэ захаваліся і гліняныя хаткі, і зямлянкі. Гэта частка Ерэвана «закансервавана» па рашэнню гарадскіх улад, як музей, што раскажа экскурсанту аб Ерэване, якога даўно няма.

Параўнанне новага са старым — даўно перастала быць метадам ацэнкі нашых дасягненняў, перш за ўсё таму, што, аказваецца, ёсць непараўнальныя паняцці, — такія, якіх ні ў якім выглядзе не знойдзеш і мінулым. Часамі здзіўляешся нават, параўноўваючы сённяшнія нашы поспехі з тымі, якіх мы дасягнулі напярэдадні вайны. Такія параўнанні ўзбуджаюць у чалавеку законнае пачуццё гонару. Многа разоў мы сутыкаліся ўжо з зусім новай з'явай: людзі параўноўвалі свой сённяшні дзень не з учарашнім, а з заўтрашнім,— і гэта штурхае, імкне наперад, узвышае, абуджае ў чалавека невычэрпны запас творчай энергіі. Будучае кліча чалавека, прыцягвае яго, і тады чалавек не сядзіць у чаканні гэтага заўтра, а сам імкнецца да яго, набліжае яго кожнай гадзінай свайго працоўнага жыцця.

Вось, скажам, плошча Леніна. Вырасшая нядаўна на нашых вачах, яна — адна з лепшых плошчаў краіны. Але як не паскорыць будаўніцтва гасцініцы і Палаца працы, якія прылягаюць да гэтай плошчы! Кожны раз, калі праходзіш тут, гэтая думка быццам супыняе цябе — кліча да дзеяння, да таго, каб хутчэй завяршыць гэты цудоўны архітэктурны ансамбль.



Армянская ССР. Акцемберанскі кансервавы завод.

Армянская ССР. Збор вінаграду ў калгасе імя Молатава Шаумянскага раёна.



Хіба могуць патрыятычныя пачуцці ерэванцаў мірыцца з тым, што чалавек, упершыню прыехаўшы ў Ерэван, бачыць стары нічым непрыкметны будынак ерэванскага вакзала, а не той велічны вакзал, які зараз толькі будуецца.

Імкненне наша, імкненне армянскіх будаўнікоў да прыгажосці, лёгка тлумачыцца: краіна ідзе да сваёй самай цудоўнай эры — да комунізма, да гармоніі ва ўсім, а гармонія — гэта прыгажосць. І густ людзей, іх эстэтычныя патрабаванні настолькі выраслі, што падчас і тыя прыстойныя будынкі, якія можна бачыць на кожнай вуліцы Ерэвана, не заўсёды задавальняюць чалавека.

...Са дна глыбокай Зангінскай цясніны мы глядзім на базальтавыя стройныя апоры новага маста. Скора яны злучацца, і тралейбусы з мяккім шумам паімчацца па масту з вуліцы Баграмяна у Шаумянскі раён. Цэнтр горада звяжацца з поўдзікай прыгожай цяснінай, наблізіць яе да горада. Тут усё новае! Навізной аддае ад самога праекта маста, ад яго выгляду. Зусім новыя формы арганізацыі работ, і новыя самі людзі, якія будуюць гэта велічнае збудаванне. Наш архітэктар называе гэты мост — мастом шчасця, і таму для афармлення маста ён выкарыстаў традыцыйны старажытны арнамент — трыліснік — эмблему шчасця.

...З Норкскай цясніны пачуліся нам гукі Гімна Совецкага Саюза. Ага, гэта-ж там сёння ўрачыстасць! Магутныя гукі разносяцца ў чыстым паветры, ляцяць над дамамі, заводамі, плывуць далёка-далёка. Іх чуе Арарат — сведка многіх вякоў пакут армянскага народа і трыццаці трох год яго шчасця. Мелодыя Гімна далятае, напэўна, і да таго берага Аракса, дзе бедны селянін працуе за плугам... Пачуўшы знаёмы матыў, ён ледзь прыўзніме галаву, зірне сюды, на наш бок, і, варушачы губамі, каб не пачулі навокал, паспрабуе падхапіць незнаёмыя, але такія зразумелыя словы гэтай песні аб міры і волі. Гэта песня абуджае ў яго веру ў тое, што і ён хутка будзе вольны, будзе мець радзіму і будзе будаваць сваё шчасце...

Цёмнай ноччу турэцкі селянін ішоў з хлопчыкам год сямі-васьмі, пільна ўглядаючыся ў цемень. Яны вярталіся з будаўніцтва амерыканскага аэрадрома. Ішлі па дарозе змораныя, доўга. Але вось хлопчык намацаў рукаў бацькі і, спрабуючы зазірнуць у твар яго, сказаў:

— Світае, бацька...

— Не, гэта не досвіткі, — запярэчыў стары. — Гэта агні.

— Якія агні?

Бацька памаўчаў. Ён палахліва азірнуўся па баках і, пераканаўшыся, што нікога кругом няма, усхваляваным шэптам сказаў сыну:

— Гэта агні Ерэвана...

Ґеворг ЭМІН

## У ГАДЗІНУ НОЧЫ

У Ерэване гадзіна.
Не скончан радок,
сон пачаў затуманьваць зрок...
А за сценкай прыёмнік сусед уключыў.
Перад тым, як на Спаскай дванаццаць гучыць,
праляцеўшы скрозь дымку начной сінявы,
к нам даносіцца голас Масквы.
Ён пяшчотнасць у ім і спакой,
колькі ў ім і любві, і цяпла!
Быццам ты, дарагая, далёкай рукой
тэлефонную трубку ўзяла.
Праляцець-бы над краем прасторным маім,
дзе багаты ўраджай на палях,
апынуцца-б у ціхім пакоі тваім —
ты паблізу жывеш ад Крэмля.
Ты, напэўна, глядзіш, як дыміцца сняжок
на зубцах, на крэмлёўскай сцяне,
зараз ты не па радыё чуеш гудок,
што чуваць у прыёмніку мне.
Нехта едзе, каб з Ленінскіх гор у цішы
паглядзець, як зазззяла Масква...
Далятаюць сігналы асобных машын
і шматлікія крокі чуваць.
Вось, напэўна, ў далёкі сабраўшыся шлях,
і не маючы часу, наспех,
каб хоць глянуць на Красную плошчу, казах
у руцэ з чамаданам прыбег.
Ну, а гэта, на хрусткі дыван снегавы
цвёрда ставячы цяжкі абцас,
к Маўзалею, напэўна, ідзе вартавы,
штык вінтоўкі блішчыць, як алмаз.
Быццам-бы мармуровы, ля каменных пліт
ён застыне на варце начной,
будзе слухаць, як сцяг шалясціць на Крэмлі,
над сівой старадаўняй сцяной.
Ну, а гэта хада мне знаёма здаўна,
крок вясёлы пазнаў я ізноў, —
з працы ты ў гэты час лёгка крочыш адна
цераз Красную плошчу дамоў...
У Ерэване гадзіна.
Яснее мой зрок,
паслухмяным зрабіўся радок.
Далятае са Спаскай упэўнены бой
цераз горы, лясы, па палях...
І я побач ізноў, дарагая, з табой, —
мы паблізу стаім ад Крэмля.

## ГАДЫ І ХВАЛІ

Павольна гайдаюцца хвалі, як шалі, —
аднолькава сёння і ўчора...
Гады, быццам мора, шумяць і спяшаюць,
жыццё-ж не падобна да мора.
Разгладзіцца зыб на паверхні рабая,
і мора ізноў маладое...
А ляжа маршчынка, а ляжа другая, —
якою іх змыеш вадою?
Хай мора ўзбярэжную гальку штолета
адносіць, прыносіць, змывае...
Жыццю-ж ты аддай толькі тыдзень без мэты —
падхопіць, памчыць, не спытае.
Хай мора ў спакоі і пры непагодзе
без толку штурхаецца з бляскам,
гады-ж патрабуюць, як толькі прыходзяць,
ад кожнага з нас абавязку!
Гайдаюцца хвалі ад краю да краю,
а мора ўсё тое-ж.
Ды верце,
калі кожны год ваш сябе паўтарае,
дык гэта падобна да смерці.
Жыві так, каб праца ўздымала ў дарогу,
на грэбень дзевятага вала, —
калі-ж не прынёс табе год твой нічога,
дык, значыць, забраў ён нямала.

Пераклаў М. АЎРАМЧЫК.

Ованес ШЫРАЗ

## РАДЗІМА

Пачую ледзь: «Радзіма»,
Зноў тады
Ручай зазвоніць ля майго парога
Маленства казку на усе лады...

Я зноўку ўспамінаю бацькаў дом,
Камінак наш, які дыміў нямнога.
Калыска там, прапахлая дымком...
Там крыллі буслу пад вясновы звон

Сняжком як быццам-бы прыцерушыла...
Там на узгорку бацькава магіла —
Акамянелы небу сіняму праклён!
І вечны Арагац стаіць з тых дзён, —

Ён горды, ён лагодны поўны сілы,
Ён для мяне, як маці родная мая...
Там галубы, зляцеўшыся здаля,
На шчасце зорку для мяне шукалі...

І вузкую сцяжынку помню я,
Што ад парога да бязмежных даляў
Вяла на ўлонне вольнае жыцця,
Дзе мог ісці я к запаветнай мэце,
Дзе свецяць зоры яркія Крэмля,
Нібы жывыя вочы Міру ў свеце.

Пераклаў М. ГАМОЛКА.

# Слота

Яўген ВАСІЛЁНАК

Апавяданне

Мал. Ф. Бараноўскага.

Надвор'е было слотнае аж да прыкрасці. Дзён тры перад гэтым ішоў, не перастаючы, дробны халодны дождж. Ён нарабіў столькі макрэчы, што, здавалася, — вадою набрыняла нават жалеза на дахах. А ўчора пад вечар дождж ператварыўся ў снег. Мокрыя важкія сняжынкі нядоўга сыпаліся з неба, але былі яны такія буйныя і падалі настолькі спорна, што праз якую гадзіну горад апрануўся ў белле. Чакалі марозу, але яго так і не было. Да раніцы ад прыгожага белля не засталося і следу — усё было пакрыта бруднашэрай жыжкай з гразі і снегу.

У такую слоту, на думку Макара Шабліна, лепш за ўсё сядзець дома і думаць аб тым, што нікуды не трэба ісці. Ён і сядзеў-бы, бо сёння-ж нядзеля, але жонка паслала яго на базар, а не паслухаць яе ён не мог. І вось Макар ідзе па вуліцы, скардзіцца некаму нябачнаму на непагадзь, лае на чым свет стаіць жонку і праклінае сябе за слабахарактарнасць.

На здзіўленне Шабліна, людзей на вуліцы было многа. Усе некуды спяшаліся, апярэджвалі адзін аднаго, і было такое ўражанне, нібыта жыхары Заранска толькі таго і чакалі, каб памясіць нагамі гэтую вось жыжку. Каля гастранома, што стаяў на рагу Першамайскай і Маскоўскай вуліц, была проста-ткі таўкатня. Макару Шабліну таксама трэба было зайсці сюды («Дзвесце грамаў сыру не забудзь узяць, дзешавейшага!» — сказала жонка), і ён, уздыхнуўшы, накіраваўся да магазіна. У гэты момант з дзвярэй выйшла жанчына ў коцікавай футры і, адышоўшы трошкі ўбок, прыпынілася, відаць, чакаючы некага, хто затрымаўся ў магазіне. На выгібу рукі яна трымала букет жывых кветак, і кожны, хто праходзіў міма, міжвольна звяртаў увагу і на кветкі, такія незвычайныя для гэтай пары, і на жанчыну — такую прыгожую і чароўную.

Макар адразу пазнаў яе, хоць з часу іх апошняй сустрэчы прайшло цэлых трынаццаць год. Сэрца яго ёкнула і некуды праваліліся. «Падыйсці ці не падыйсці?» — пакутліва думаў Шаблін. А дзверы былі ўжо побач, і трэба было або знікнуць за імі, або зрабіць тры крокі направа, насустрач сваёй мінуўшчыне.

Жанчына абыякавым позіркам глядзела на людзей, што падыходзілі да магазіна. На нейкі момант позірк яе спыніўся на твары Шабліна, і тады ён убачыў, як ледзь улоўна ўздрыганула яе левае брыво. «Пазнала!» — з радасцю і з трывогай падумаў ён і павярнуў ад дзвярэй.

— Зі... Зіна! — сказаў Шаблін, падыходзячы да яе і заліваючыся чырванню. — Ты тут? Якім чынам? А я, гэта самае, і не ведаў...



Толькі на адно імгненне абыякавасць знікла з твару жанчыны, і ў сініх, як вясновае неба, вачах яе бліснула іскрынка прыветлівасці. Толькі на адно імгненне ўбачыў Макар ранейшую Зіну, такую родную і блізкую, але ўжо ў наступны момант позірк яе зноў стаў халодны і непранікальны, а на твары нічога, акрамя абыякавасці, не адбівалася.

— Зі, што-ж ты маўчыш?.. — ціха прамовіў Шаблін, робячы адчайную спробу перакінуць мост паміж мінулым і сучасным і з гэтай мэтай называючы яе тым, ранейшым, імем. «Зі, — гаварыў ён некалі ёй, — наша справа цяпер на мазі».

— А-а, гэта вы, Шашкін... — працягнула Зіна, пазіраючы не на яго, а некуды ўбок.

— Але, але, гэта я, Шаблін. Памятаеце?..— збянтэжана сказаў Макар, адчуваючы, як безнадзейна валіцца мост, збудаваны ім на такой нетрывалай аснове, якой з'яўляецца памяць аб далёкім і перакрэсленым ужо мінулым. Так, мост валіўся, і не было сілы, якая здолела-б падтрымаць яго. «Зіна, Зіна, — тужліва думаў Макар, — ты нават прозвішча маё забыла. Ці, можа, ты знарок сказала «Шашкін», замест «Шаблін»? Таму, напэўна, і сухое афіцыйнае «вы» ўжыла замест ранейшага «ты», такога цёплага некалі?»

Ён стаяў перад ёй — нікчэмны, бледны і, пераступаючы з нагі на нагу, збянтэжана гаварыў:

— Вось мы, гэтае самае, і сустрэліся... Сустрэліся, значыцца. Хто-б мог падумаць...

А яна ўсё глядзела некуды ў адну кропку і, прасачыўшы за яе позіркам, Макар убачыў, што Зіна глядзіць на дзверы магазіна. «Каго яна чакае?» — спрабаваў здагадацца ён, але зрабіць гэта было, вядома, немагчыма.

— Вы даўно тут, у Заранску? — нерашуча спытаў Макар, міжвольна таксама пераходзячы на «вы».

— Нядаўна, — коратка адказала Зіна і зрабіла нецярплівы рух рукой, нібыта адмахваючыся ад назойлівай мухі.

— А надоўга? Ці не? — прадаўжаў Макар і сэрца ў яго замерла ў чаканні адказу. «Відаць, яна тут выпадкова», — прамільгнула думка ў галаве.

— Назусім, — гэтак-жа коратка сказала Зіна. І пасля кароткай паузы дадала: — Мужа перавялі сюды працаваць.

Зіна відавочна спяшалася абвясціць, што яна замужам. Але Макар і не сумняваўся ў гэтым. Так, так, яна, вядома, замужам. У яе ёсць муж. Ён, напэўна, вельмі кахае яе, а яна — яго. І што з таго, што ён, Макар Шаблін, таксама некалі кахаў яе, ды, шчыра кажучы, і цяпер яшчэ кахае?.. Гэта цяпер не мае ўжо ніякага значэння...

Як-жа гэта здарылася, што ён страціў яе, сваю Зіну? Бо гэта-ж яна, і толькі адна яна, — цяпер Макар цвёрда ведаў гэта, — магла стаць яго шчасцем, яго радасцю, яго жыццём. Як-жа гэта здарылася?..

Цяпер яны чужыя адзін аднаму людзі, зусім чужыя. А быў-жа час, калі ён браў яе за руку і казаў ёй:

— Зіна, мы будзем заўсёды разам плысці па шумлівай рацэ жыцця, праўда, Зі?

Памятаецца, ён на тую пару быў схільны да ўзнёслых слоў і свабодна ўжываў іх, часта не задумваючыся над сэнсам. Сябры даравалі яму гэта: ён, малады мастак, быў у іх вачах чалавекам незвычайным, бо пра яго аднойчы напісалі ў газеце, што ён падае багатыя надзеі.

— Толькі не трэба кідацца ў гэтую раку на злом галавы, як той купальшчык з абрыву, — стрымана адказала Зіна.

— А хоць-бы і з абрыву, — бестурботна смяяўся Макар. — Гэта нават эфектна — ляцець з абрыву ў бездань!

Не думаў ён тады, што пасля яму прыдзецца горка раскайвацца ў гэтых словах і праклінаць тую хвіліну, калі яны прышлі яму ў галаву.

Аднойчы Макар і Зіна пайшлі купацца на раку. З імі быў Пеця Зварыкін — ціхі непрыкметны юнак з доўгімі рукамі, якіх ён вельмі сароміўся і таму заўсёды трымаў за спіной. Працаваў Пеця недзе ў вагонным дэпо, але што ён там рабіў, Макар не ведаў, бо яго зусім не цікавілі людзі,якія не мелі хоць-бы якога дачынення да святога мастацтва; працягваў-жа ён знаёмства з Пецем проста таму, што юнак быў гарачым паклоннікам яго таленту і, акрамя таго, умеў рабіць выдатныя рамы для макаравых карцін.

У той дзень было вельмі горача. Яны прышлі на любімае месца Зіны — на высокі абрыў, з якога адкрываўся маляўнічы від на раку і на ўсё наваколле. Зіна любіла сядзець тут, на самым краі абрыву, і глядзець уніз на раку. Яна магла сядзець тут доўга, прыслухоўваючыся да лёгкіх аднастайных усплёскаў вады каля берагу. Дзяўчына была ў гэтыя хвіліны маўклівая і задуменная, а позірк яе, здавалася, блукаў недзе ў бездані, бачачы тое, што схавана ад вачэй Макара. Макар усё збіраўся напісаць карціну «Дзяўчына на абрыве», але каб працаваць над ёю, яму трэба было самому прымасціцца над прадоннем, а гэта было немагчыма: ён палохаўся вышыні. Кожны раз, варта было яму толькі падыйсці да краю, як у яго пачынала кружыцца галава, і ён хуценька адхінаўся назад.

Зіна і на гэты раз хацела заняць сваё звычайнае месца, але тут было так спякотна, сонца паліла да таго няшчадна, што яна перадумала і прапанавала ўладзіцца ў цяньку бярозак, што раслі трошкі ўбаку. Пеця распрануўся першы, і Макар са здзіўленнем убачыў, што ў гэтага нядошлага на выгляд юнака моцнае загарэлае цела з добра развітымі мускуламі. У мастаку загаварыла прафесійнае пачуццё захаплення прыгажосцю чалавечага цела, і ён не мог стрымацца, каб не папрасіць Пецю папазіраваць яму як-небудзь пры выпадку.

— А цяпер давайце купацца, — тонам старэйшага сказаў Макар. — За мной!

І ён пайшоў уздоўж берага, туды, дзе была лагчына, па якой можна было спусціцца ўніз, да вады. Крокі праз тры ці чатыры, адчуваючы, што ні Зіна, ні Пеця чамусьці не ідуць за ім, Макар азірнуўся, і тое, што ўбачыў ён, прымусіла яго прыпыніцца. На самым краі абрыву, нібы адліты з бронзы, стаяў Пеця. Ён выглядаў у гэты момант значна вышэйшым, чым быў на самай справе, ледзь не волатам. Ззаду і крыху воддаль ад яго знаходзілася Зіна, і было падобна на тое, што яна любуецца ім. Макар убачыў: Пеця павярнуў галаву назад, нешта сказаў Зіне і яна таксама нешта адказала яму. А пасля Пеця ўзмахнуў рукамі, затым рэзкім рухам адвёў іх назад і, злёгку прысеўшы, раптам імгненна адштурхнуўся нагамі ад зямлі, адначасова выкінуўшы рукі ўперад. Цела яго апісала ў паветры дугу і, набіраючы хуткасць, паляцела ўніз.



Зіна падбегла да краю абрыву і, прыціснуўшы рукі да грудзей, замерла. Макар неахвотна вярнуўся назад. Ён не паспеў убачыць, як нырнуў Пеця, ён бачыў толькі кругі, што разыходзіліся на вадзе, ад таго месца, дзе схаваўся юнак.

— Дзе-ж ён? Што з ім? — спалохана спытала Зіна і ўся падалася ўперад. Здавалася, што яна вось-вось кінецца ўслед за Пецем. І калі ў наступнае імгненне Пеця, нарэшце, вынырнуў, Зіна шчасліва засмяялася і запляскала ў далоні.

Адфыркаўшыся, Пеця пачаў плысці сажонкамі, спрытна заграбаючы ваду рукамі. Спачатку ён плыў уверх па цячэнню, потым, зрабіўшы невялікі круг, перавярнуўся на спіну і спакойна паплыў уніз, не робячы ніводнага руху ні рукамі, ні нагамі. Параўняўшыся з Макарам і Зінай, Пеця набраў вады ў рот, выпусціў яе ўгару многаструменным фантанам. У дробных, як пыл, пырсках успыхнула вясёлка...

Зіна павярнулася да Макара.

— Чаго-ж ты стаіш? — здзіўлена спытала яна.

— Ды я пайшоў быў, але вы тут надумаліся фокусы выраблять, дык я і вярнуўся паглядзець.

— Фокусы?.. — з дакорам сказала, крыўдуючы, што ён не зразумеў яе пытання. — Ты жартуеш... — дадала яна праз хвіліну, беручы сябе ў рукі. — Ну, станавіся. Вось сюды.

— Навошта? — не зразумеў Макар.

— Скачы ўніз. Як Пеця. Ці мо' нават яшчэ лепей за яго. Ну, станавіся! — уладарна загадала яна.

Макар аж адхіснуўся назад, пачуўшы гэтыя яе словы. Яму нават дух заняло ад адной думкі аб тым, як ён будзе ляцець з гэткай вышыні ў бездань. Адчуваючы, што бляднее, Макар хуценька адвярнуў твар убок.

— Чаго-ж ты стаіш? — зноў спытала Зіна, і ў голасе яе загучэлі нейкія незнаёмыя яму ноткі. Тут было ўсё разам — здзіўленне, патрабавальнасць, надзея і нават пагроза.

— Ты яшчэ, гэта самае, пакуль што не жонка мне, каб камандаваць мною, — паспрабаваў пажартаваць Макар, але і сам адчуў, што атрымалася гэта ў яго недарэчна.

— Не гавары глупства, Макар, — ціха прамовіла Зіна, падыходзячы да яго ўшчыльную і зазіраючы яму ў вочы. — Чаго ты фанабэрышся? Я-ж ведаю, што зрабіць гэта табе зусім проста. Ну, давай! — І яна нецярпліва тузанула яго за руку.

— Пакінь, Зіна, — надаючы свайму голасу паважнасць, сказаў Макар. — Навошта табе гэта?

— Патрэбна, разумееш? — пранікнёна сказала Зіна. — Ну, скачы-ж, скачы! Мне вельмі гэта патрэбна, вельмі! Разумееш? Гэта-ж вельмі проста: падыйсці да самага краю і — уніз! Як Пеця. І нават яшчэ лепей, чым ён, нават яшчэ лепей. Ну, Мак, ну, зрабі гэта для мяне! Ты можаш... ты-ж можаш, праўда?

Няшчадна паліла сонца, паветра было нейкае цяжкое, яно ціснула, прыціскала да зямлі, налівала цела, а галоўнае ногі нечым агідным, брыдкім, і не было ніякай сілы пазбавіцца гэтага незразумелага цяжару.

— Альбо ты не можаш? — адступіўшы на крок ад яго, амаль шэптам прамовіла Зіна, — Не можаш?... Ну, скажы — не можаш?

Цяпер яна стаяла над самым прадоннем, спіной да ракі. Макар бачыў, як паступова мяняецца яе твар, як цямнеюць вочы, як перакошваюцца губы. Яна ўсё чакала, што ён падыйдзе і скочыць. Ён разумеў, што гэта не капрыз, не дзівацтва, ёй проста неабходна было, каб ён скочыў. «Пакажы, што ты і на самай справе такі, за якога я цябе лічу», — гаварыў, здавалася, яе позірк. І яна стаяла і чакала. А ён не ішоў. Той незразумелы цяжар, што аднекуль зваліўся на яго, прыціскаў да зямлі ўсё мацней і мацней.

Тады Зіна рэзка павярнулася спіной да яго і нахілілася ўперад. Яна ніколі не скакала ў ваду з такой вышыні, ды і плавала не надта ўжо і добра. Пабляднеўшы, яна заплюшчыла вочы і, расставіўшы рукі, ступіла наперад...

Страшэнным напружаннем усіх сваіх сіл Макар прымусіў сябе падбегчы да абрыву і зірнуць уніз. У гэты момант Зіна, нібы камень, плюхнулася аб ваду: у паветра ўзняўся слуп пырскаў, хаваючы ад вачэй Макара дзяўчыну. Калі пырскі апалі, Зіны на паверхні вады ўжо не было.

Відаць, Пеця заўважыў, як Зіна скочыла з абрыву, бо ён імкліва павярнуўся і хутка паплыў да таго месца, дзе яна знікла пад вадой. Але Зіна ўжо сама ўсплыла, смешна борсаючы рукамі і нагамі. Агледзеўшыся, яна паплыла насустрач Пецю. Параўняўшыся, яны рушылі па цячэнню разам, усё аддаляючыся і аддаляючыся.

Макар раптам усёй сваёй істотай адчуў — Зіна аддаляецца ад яго назаўсёды...

На павароце ракі яны зніклі з вачэй.

Макар не быў упэўнены, ці кахала яго Зіна, але ведаў, што магла пакахаць у той спякотны чэрвеньскі дзень, — і не пакахала...

Шмат было пасля на яго жыццёвым шляху абрываў, з якіх трэба было кідацца, не разважаючы і не хістаючыся. Але той першы абрыў быў, відаць, рубяжом, які вызначае ўсю сутнасць, усю годнасць чалавека. І Шаблін ужо не мог пераадолець ніводзін з гэтых абрываў, — кожны раз штосьці ўсё прыціскала і прыціскала яго да зямлі.

Праз некалькі дзён пасля таго памятнага дня, у пачатку ліпеня сорак першага года, узвод, у якім служыў Макар, першы з усяго батальёна пад кулямётным агнём кінуўся адбіваць атаку гітлераўцаў, засланяючы ім шлях на Оршу. Застаўся на месцы толькі адзін чалавек — Макар Шаблін. Узвод, а за ім і астатнія падраздзяленні батальёна, прасунуліся за якую гадзіну далёка ўперад. Праклінаючы сябе і добра разумеючы, што з гэтага часу ён на ўсё жыццё будзе агідны сам сабе, Макар міжвольна ўсё шчыльней і шчыльней прыціскаўся да зямлі. Перачакаўшы, пакуль сціхне агонь бою, ён падняў галаву і агледзеўся. То там то сям былі відны распластаныя на зямлі адзінокія фігуры байцоў. «Не адзін, аказваецца, я тут», — супакоіў сябе Макар. Праз хвіліну ён зразумеў, што ўсе гэтыя байцы — нежывыя. Толькі ён быў жывы. Праўда, варожая куля ўсё-ж зачапіла яго, падрапаўшы трохі левую руку каля локця. «Гэта рана мая ва ўсім вінаватая, — сказаў сабе Макар. — Калі-б не яна...»

Ён так і не змог трапіць да сваіх — у той-жа дзень немцы захапілі яго ў палон.

Канцэнтрацыйны лагер знаходзіўся недзе ў Польшчы, і Макар больш за год працаваў разам з іншымі палоннымі на папяровай фабрыцы, выгружаючы з вагонаў сыравіну і грузячы ў іх гатовую прадукцыю. Аднойчы яго сусед па нарах Васіль Рудак сказаў яму:

— Заўтра мы даём лататы адсюль. Нас восем чалавек. Хочаш быць дзевятым?

— А якім чынам? — насцярожана спытаў Макар.

Васіль Рудак падрабязна расказаў яму пра план уцёкаў. План быў просты, але вельмі рызыкоўны.

— Я з вамі ўсёй душой, — сказаў Макар. — Вось толькі, гэта самае, нагу няўчасна намуляў.

І назаўтра восем зніклі з лагера. А дзевяты застаўся. «Ах, каб не гэтая нага!..» — гаварыў сам сабе Макар, ні то супакойваючы сябе, ні то апраўдваючы.

Былі і яшчэ ў жыцці абрывы, калі трэба было кідацца ўперад, не разважаючы і не хістаючыся. Ды шмат якія з іх засталіся не пераадоленымі. Макар Шаблін здагадваўся, што іменна таму з яго так і не атрымалася нічога — ні значнага мастака, ні добрага служачага, ні нават прыстойнага сем'яніна.

І вось ён у шэры, слотны дзень стаіць перад Зінай пасля стольках год з часу іх апошняй сустрэчы, — стаіць нікчэмны, бледны, у старэнькім абцёрханым паліто і сам увесь нейкі абцёрханы і, пераступаючы з нагі на нагу, усё імкнецца зазірнуць ёй у вочы, а яна ўпарта не хоча глядзець на яго.

Макар ведаў, аб чым яна думае зараз. Ён абсалютна быў упэўнены ў тым, што і перад ёю паўстаў той далёкі дзень, што з'явіўся пераломным у іх адносінах, што разлучыў іх, паклаўшы для яго канец усяму — надзеям, марам, жаданням. Ён не ведаў пакуль што толькі аднаго — ці захавалася ў яе і дагэтуль пагарда да яго.

— Дык вы, гэта самае, назусім у наш горад?.. — перапытаў Макар, пачынаючы дрыжаць, нібы ад холаду.

Зіна нічога не адказала. Яна не звяртала на яго ніякай увагі, нібы яго і не было перад ёю. Макар дрыжаў усё мацней і зусім не ведаў, што яму рабіць далей. Гаварыць ім не было аб чым.

І ўсё-ж Макар рашыўся яшчэ на адзін крок, бо ён не мог, проста-ткі не мог пайсці ад Зіны без усялякай надзеі на магчымасць пабачыць яе яшчэ калі-небудзь. Яму здавалася, што цяпер гэта і будзе яго адзіным шчасцем — магчымасць бачыць яе, ведаць, што яна побач.

— Мне можна будзе калі-ні-калі заходзіць да вас? — лісліва спытаў Шаблін. — Можна?

Нарэшце, Зіна павярнула свой твар да Макара і паглядзела яму ў вочы. Але ён нічога не паспеў прачытаць у яе позірку, а яна нічога не паспела адказаць яму, — з магазіна ў гэтую хвіліну вышаў вайсковы ў палкоўніцкай папасе і гучна сказаў:

— Прабач, Зіна, я трошкі затрымаўся. Але ты нізавошта не адгадаеш, які я табе падарунак купіў. Нізавошта!

Макар успомніў: так, сёння ў Зіны дзень нараджэння... Шаблін крадком зірнуў на вайсковага. У гэтым падцягнутым, стройным і вельмі маладым на выгляд палкоўніку нялёгка было пазнаць Пецю Зварыкіна. Макар настолькі разгубіўся, што нават не прывітаўся са сваім былым паклоннікам. А Зварыкін, відаць, не пазнаў Шабліна.

— Бывайце, Шашкін, — абыякава сказала Зіна.

Палкоўнік узяў яе пад руку, Зіна прыхінулася да яго, і яны хутка пакрочылі ў напрамку да аўтобуснага прыпынку.

Макар не помніў ужо, куды і чаго яму трэба было ісці, і пацёгся ўслед за імі. А яны ўсё аддаляліся і аддаляліся...

Дзьмуў халодны пранізлівы вецер. Пад нагамі хлюпаў мокры шэры снег напалам з граззю...




— Зусім нехапае часу! — нярэдка чуем мы ў гутарках і маладых і пажылых людзей.

Словы гэтыя маюць ці адценне разгубленасці, ці жалю, ці гучаць, як жаданне апраўдацца.

Ідзе чалавек, напрыклад, пасля працы дадому, бачыць каля клубу афішу аб лекцыі ці аб спартыўных спаборніцтвах. «А ці не пайсці і мне?» — мільгане думка. Але, уявіўшы стрэлкі гадзінніка, неабходнасць паабедаць і шмат малых спраў хатняга парадку, безнадзейна махае рукой і спяшаецца хутчэй прайсці спакуслівы напамінак: усёроўна ўсюды нельга паспець. У лепшым выпадку, такі «заняты» чалавек сходзіць увечары ў кіно, ды і то толькі тады, калі хто-небудзь будзе моцна настойваць на гэтым.

Але бывае і зусім інакш.

У адным з цэхаў баранавіцкай трыкатажнай фабрыкі «Комунарка» мы разгаварыліся з маладым майстрам якраз на гэтую тэму. Выявілася, што гэты чалавек, акрамя кіраўніцтва зменай, паспяхова ўзначальвае фабрычную комсамольскую арганізацыю. Выявілася, што ён з захапленнем займаецца спортам, не аднойчы прымаў удзел ва ўсесаюзных спаборніцтвах і з'яўляецца рэкардсменам вобласці. Больш таго, ён зацікавіў заняткамі спортам вялікую групу моладзі і з яе дапамогай стварыў на фабрыцы фізкультурны калектыў, у якім налічваецца каля трохсот чалавек.

І гэта яшчэ не ўсё! Нястомны майстар марыць аб кваліфікацыі інжынера і паспяхова займаецца ў завочнай ВНУ. А абавязкі хатнія, наведванне кіно, Дома культуры, а асабістыя справы, аб якіх не абавязкова, вядома, распытваць? На ўсё-ж гэта таксама патрэбны час.

Няма нічога дзіўнага, калі такі чалавек шчыра, з лагоднай усмешкай гаворыць вам:

— Усе, ведаеце, добра. Вось толькі-б хоць крышку павялічыць суткі! — і вочы, глыбокія і шчырыя, у гэты момант адлюстроўвалі прагу кіпучага, дзейснага прыгожага жыцця.

Прозвішча гэтага чалавека — Раіса Журакоўская. Гэта яе здымак упрыгожвае вокладку гэтага нумару нашага часопіса.

# Жуль Верн

Да 50-годдзя з дня смерці

Кожны раз, калі мы звяртаемся да спадчыны вядомага пісьменніка, узнікае жаданне даведацца, наколькі яго жыццё адлюстравана ў яго творчасці. Таленавіты пісьменнік можа сказаць аб сабе: маё жыццё — у маіх творах. Але калі перад чытачамі праходзіла панарама з некалькіх дзесяткаў «раманаў но-



вага тыпу», якія стварыў Жуль Верн, натуральна нараджаліся спрэчкі вакол таго, ці аўтар іх сам шмат падарожнічаў і сам даследаваў, ці толькі фантазіраваў. Чытачам цяжка было паверыць, што далей паездак на маленькай шхуне «Сен-Мішэль» уздоўж еўрапейскага ўзбярэжжа, славуты раманіст нікуды не падарожнічаў.

Жуль Верн уступіў у свядомае жыццё, калі ўся Еўропа была ўсхалыхнута рэвалюцыйнымі падзеямі 1848 года.

Таленавіты пісьменнік-гуманіст і дэмакрат пранікся глыбокай упэўненасцю, што свет стаіць на шляху да ўсебаковага прагрэсу. У 70—80 гадах XIX стагоддзя поспехі асобных вучоных у розных галінах ведаў сталі складацца ва ўсё больш стройную карціну законамернага пазнання і падпарадкавання чалавецтву сіл прыроды. Адкрыцці Дарвіна, Мендзелеева і многіх іншых карыфеяў навукі новага часу дазволілі Ж. Верну глыбока асэнсаваць перспектывы важнейшых магчымых даследаванняў. Белыя плямы цэлых галін ведаў гублялі сваю недаступнасць. Ж. Верн надоўга зацікавіўся праблемамі паветраплавання і міжпланетных зносін, дасягненнем полюса і пазнаннем зямных нетраў.

Натхняючыся разам з гэтым утапічнымі ідэямі фур'ерыстаў, пісьменнік стварае трылогію «Дзеці капітана Гранта», «2 000 лье пад вадой» і «Таямнічы востраў». Пры казачнай рознастайнасці прыгодніцкіх фабул гэтыя раманы радніліся паміж сабой вобразамі герояў, якія імкнуліся скарыстоўваць свае веды на карысць людзям. Першы з гэтых раманаў, вядомы нашаму юнацтву па аднайменнаму фільму, паэтызуе салідарнасць вучоных-падарожнікаў з героем нацыянальна-вызваленчай барацьбы капітанам Грантам. Другі раман гераізуе капітана падводнага карабля Немо, каюта якога не выпадкова упрыгожана партрэтамі Т. Касцюшкі і Дж. Брауна. Капітан Немо пад водамі ўсіх мораў памятае, што «на зямлі пануе невыходнае гора». Трылогію завяршае «Таямнічы востраў» — раман аб радасцях творчай працы, накіраванай і на падпарадкаванне прыроды і на перавыхаванне закаранелых злачынцаў.

Следам за апублікаваннем гэтай трылогіі раманіст, які зрабіў вялікай важнасці адкрыццё для самой мастацкай літаратуры—паказаў чытачам усёй зямлі захапляючы свет людзей навукі і бязмежнасць гарызонтаў іх шуканняў, — быў прыцягнуты такімі сусветна-гістарычнымі падзеямі, як спроба комунараў павярнуць гісторыю супраць буржуазіі і, з другога боку, хцівыя намаганні імперыялістаў падпарадкаваць сабе сілы самой навукі.

Жуль Верн стварае серыю раманаў, накіраваных супраць рабства, якое навязваюць імперыялісты народам Афрыкі і Аўстраліі, плямёнам безыменных астравоў. Ж. Верн спыняе сваю ўвагу на спачувальнай абмалёўцы барацьбы з рабствам («Жангада», «15-гадовы капітан»), на бойках сінаеў («Паравы дом»), на нацыянальна-вызваленчай барацьбе славян, венграў, грэкаў і албанцаў («Архіпелаг у агні»).

Але раманіст не пакідае сваёй нязменнай тэмы — навукі, яе рыцараў і ворагаў. Адны з гэтых герояў — сапраўдныя вучоныя, заўзятыя даследчыкі, «сапраўдныя падарожнікі і шукальнікі», як называў іх сам Ж. Верн.

Другія — вузкалобыя драпежнікі, хцівыя эксплуатататары навуковага прагрэсу, гатовыя, як Шульцэ з «Пяцісот мільёнаў бегумы», спаліць цэлы горад у імя барышу, атруціць вадаёмы і нават «запрасіць» касмічнага госця ў асобе метэора на Зямлю, калі ён абяцае быць з чыстага золата («Паляванне за метэорам»).

Як сапраўдны мастак, які выхаваў свой талент на чыста навуковым палёце фантазіі, Ж. Верн многае прадугадаў не ў прыватных пытаннях тэхналогіі, а ў агульных перспектывах будучага навукі ў сучасным грамадстве. Ён рашуча адрозніваецца ад тых аўтараў, якія вельмі блізарука ізалююць прагрэс навукі ад грамадскага прагрэсу. Сябры Жуль Верна — утапісты і нават комунары былі пазбаўлены магчымасці стварыць грамадства, падобнае Таямнічаму востраву. Але Жуль Верн не захапляўся тымі магчымасцямі, якія прадастаўляліся навуцы тоўстасумамі. Наведаўшы ЗША, пісьменнік у сатырычна-завостраных вобразах паказаў утаржэнне бізнеса ў навуковыя гіпотэзы. Так, прафесар Гопкінс вырашыў паведаміць аб адкрыцці ім нейкай першабытнай дапатопнай расы тытанаў. Верным бізнесам будзе даказаць, што самі Адам і Ева былі... амерыканцамі! Каб пачаць эксплуатацыю нетраў поўночнага полюса, яны хочуць «выпраміць» вось зямлі, пасля чаго вечныя ільды, затапіўшы цэлыя населеныя мацерыкі, знікнуць, але... пачнецца здабыча долараў. Такая канібальская прагнасць янкі ў рамане «Кверху дном» блізка і сучаснай атлантычнай стратэгіі.

Як піша Ж. Верн, — у тым свеце, дзе самым святым словазлучэннем з'яўляецца «мільён долараў», немагчымы «Таямнічы востраў». Звышмільярдэры ствараюць для сябе самых «Самаходны востраў», які развальваецца надвое з-за крывавых спрэчак герояў рамана — прэтэндэнтаў на сусветнае панаванне.

Раманы Ж. Верна ўзбуджалі думкі даследчыкаў. Яны не безгрунтоўныя і бесперспектыўныя. Сам Ж. Верн падкрэсліваў: «Я заўсёды адной нагою стаю на глебе сапраўднасці». Абапіраючыся на самае перадавое ў навуцы і тэхніцы, пісьменнік вельмі многае пачэрпнуў у рускіх вучоных. Так ідэі Ладыгіна наконт электрычнай цягі ў гелікаптэры ўведзены ў раман «Паветраны карабель». Паведамленне аб усюдыходзе А. Мажайскага выкарыстана Ж. Вернам пры апісанні карабля ўсіх стыхій («Уладальнік сусвету»). Цікава, што ў рамане «Клаўдзі Бамбарнак» прадугадваецца пабудова чыгункі праз сярэднеазіяцкія пустэльні да Пекіна. «Няхай будзе вядома, — адзначыў Ж. Верн, — што рускія ніколькі не ўступаюць амерыканцам у хуткасці пракладкі чыгуначных пуцей і нават пераўзыходзяць іх як спрытам, так і прамысловай смеласцю і кемлівасцю».

Зусім натуральна, што навуковы прагрэс служыў натхненню Ж. Верна там, дзе ён абапіраўся на прагрэс соцыяльны.

Адметнай асаблівасцю таленту Ж. Верна была яго душэўная маладосць. Ён — пісьменнік для юнацтва. Але яго з захапленнем чытаюць усе тыя, хто заглядвае ў будучыню таксама смела, як моладзь, якая аваладвае навукай. Гэтую лепшую традыцыю Ж. Верна пераймаюць і развіваюць совецкія пісьменнікі А. Талстой, Я. Маўр, В. Беляеў.

**Д. ФАКТАРОВІЧ,**
кандыдат філалагічных навук.

---

**Аляксей КУЛАКОЎСКІ**

# З вялікага грому...

Мал. Ю. Пучынскага.

Ехаў Сёмачкін у калгас і трымаў намер пабыць там дзён чатыры, каб усё добра агледзець і прааналізаваць. Пакуль знаёміўся з бухгалтарам і рахункаводам, пакуль спісваў у іх розныя лічбы, гэты намер у яго не парушаўся, думалася нават, што і на пяты дзень варта будзе застацца. Потым зайшоў хлопец на ферму, і тут раптам адчуў, што нейкая неадольная сіла пачынае цягнуць яго назад у горад, у сваю рэдакцыю. Перад вачыма раз-по-разу паўстае рэдактар з прагным, нецярплівым паглядам: «Ну, што, таварыш Сёмачкін, што ты прывёз свежае, вострае, праблемнае? Трэба нам так выступіць, каб цэнтральны друк заўважыў, каб матэрыял прачыталі ў міністэрстве і яшчэ ў пэўных установах. Тады можна будзе падумаць і аб тым, каб такія людзі, як ты, сядзелі ў нас на аддзелах».

І паліліся ў Сёмачкіна, як па пісанаму, усхваляваныя словы ў адказ рэдактару: «У тым калгасе, у які вы мяне паслалі, маючаяся малочная ферма недаравальна і злачынна запушчана. Тут так запусцілі даенне кароў, што ўсе яны хутка зусім запусцяцца. Загадчык фермы нічога не робіць у напрамку карэннага палепшання работы даярак, а старшыня калгаса яму патурае»...

— Дык гэта-ж цудоўна! — чуе Сёмачкін задаволены голас рэдактара. — Гэта-ж, брат, знаходка! Тэрмінова рыхтуй баявое выступленне. Толькі ні слова пра гэта нікому. Мы павінны выступіць першымі і хоць тут апярэдзіць другія газеты!

У той-жа дзень Сёмачкін выехаў з калгаса. Седзячы ў вагоне, радаваўся, што ўдалося знікнуць непрыкметна: ні старшыня калгаса не бачыў, ні бухгалтар, ні загадчык фермы. Няхай потым іх ашаломіць праблемная карэспандэнцыя, саб'е з ног. І пачаў старанна абдумваць, як назваць карэспандэнцыю, з якога тэзіса яе пачаць, якім закончыць. Галоўнае-ж, як падпісаць. Сёмачкін? Што за прозвішча Сёмачкін? Нешта нягучнае і нязначнае. Хто на яго зверне ўвагу? Справа іншая — Громаў, Бураў, Віхроў. Але-ж такія прозвішчы ўжо былі, нязручна браць чужое. Можа лепш — Буравеснік! От, правільна. Буравеснік! І прыгожа, і па сэнсу бездакорна!



Назаўтра яшчэ прыцемкам Сёмачкін-Буравеснік прышоў у рэдакцыю. Гадзіны дзве сядзеў за сталом, пісаў і ледзь не задрамаў ад зморанасці, бо ноччу амаль зусім не спаў. Потым з гадзіну хадзіў з кута ў кут па прыёмным пакоі, чакаў рэдактара. Сустрэча выйшла амаль такая-ж, якую ўяўляў Сёмачкін, стоячы ля падваротні фермы.

Рэдактар прачытаў напісанае, энергічна патрос Сёмачкіну руку і рашуча сказаў:

— Выдатна! Зараз-жа ў набор! Толькі тут яшчэ дабаў пра гэтага самага Івана Іванавіча... З Міністэрства. Мы павінны сказаць іменна аб ім. І смялей, смялей! Разумееш? Не зважаючы на асобы! Крытыка — аснова нашага руху. Мы можам выступіць востра, няхай іншыя баяцца сказаць праўду ў вочы, а нам няма чаго...

Тут рэдактар перадыхнуў:

— Ну, вядома, ты не вельмі ўжо, каб гэтае самае... Разумееш?

І пайшла звыштэрміновая карэспандэнцыя ў набор.

Назаўтра Сёмачкін прышоў у рэдакцыю рана, прачытаў матэрыял у паласе і накіраваўся ў друкарню падганяць машыністаў. Як толькі з ратацыі выскачылі першыя экземпляры, ён спрытна схапіў іх і пабег у рэдакцыю. Там расклаў усё на стале, падкрэсліў усюды ў змесце свой псеўданім і пачаў прыкідваць, куды ў першую чаргу паслаць газету. Прыкідваў па свайму разуменню, але адчуваў, што каб стаяў тут рэдактар, то напэўна сказаў-бы: «Добра, таварыш Сёмачкін, малайчына, Буравеснік! Дзейнічай!»

Першы экземпляр «буравеснік» паклаў у канверт і адрасаваў у Маскву, астатнія размеркаваў паміж міністэрствамі і іншымі ўстановамі на месцы. Затым, не спадзеючыся на апаратыўнасць кур'ера, сам занёс канверт на пошту і да пачатку рабочага дня забяспечыў цёплым нумарам усе найбольш важныя ўстановы.

Тады з'явілася на душы лагоднае задавальненне, пацягнула дадому, у вузкі ўтульны пакойчык, каб пасядзець там спакойна, адпачыць, пацешыцца прывабнымі думкамі. Пройдзе ўсяго толькі якіх трыццаць-сорак хвілін і добры дзесятак адказных асоб прачытае яго артыкул. Пакуль ён будзе адпачываць, напэўна, не адзін раз зазвініць тэлефон рэдактара і зацікаўленыя асобы спытаюць: «А хто гэта ў вас там таварыш Буравеснік?»

— Гэта Сёмачкін, — задаволена адкажа рэдактар. — Аўхім Сёмачкін! Маладзец! Востра піша!

Уявілася, як у тым калгасе, адкуль ён толькі што прыехаў, адразу-ж усе даяркі пачнуць найлепш даіць кароў. Малако ў калгасе пальецца ракой.

У свой аддзел Сёмачкін зайшоў калі поўдня, абыякава глянуў на загадчыка, які, на яго думку, сам пісаць не ўмее, а толькі ўсіх правіць, мармытнуў нешта астатнім супрацоўнікам і хацеў адразу-ж выйсці, каб наведацца да рэдактара, але ў гэты момант загадчык сказаў:

— Таварыш Сёмачкін, падшыйце сённяшні нумар для аддзела!

— Гэта можна зрабіць і кожнаму іншаму, — пакрыўджана азваўся Сёмачкін, аднак ступіў крок да архіўнай шафы: не паслухаць загадчыка ўсё-ж такі не адважыўся.

— Падшыць-то, канешне, можна, — заўважыў адзін з супрацоўнікаў. — Такія матэрыяльчыкі толькі ў падшыўку. Мала людзей чытае нашу газету, вельмі мала!

Сёмачкіну здалося, што нейкія вельмі-ж дробязныя размовы пачаліся ў аддзеле, і ён, хутка і з неахвотай падшыўшы газету, вышаў з пакоя. У прыёмнай рэдактара сакратарша таксама падшывала свежы нумар, незнарок укалола шылам палец, войкнула і жартаўліва накінулася на Сёмачкіна:

— Гэта ўсё праз ваш артыкул, хай яго!.. Стамілася, бо ніколі яшчэ такой рассылкі не было. Глядзіце, — дзяўчына паказала на вялікі стос канвертаў на стале. — Рэдактар загадаў!

Сёмачкін спачувальна засмяяўся, адгарнуў з ілба пасму белых валасоў і наблізіўся да стала.

— Пакажыце, каму вы тут рассылаеце? — І яшчэ больш нікчэмнай уявілася яму толькі што пачутая гаворка ў аддзеле: «Дробязныя ў нас там людзі, нават ні слова пра артыкул, які робіць гонар усёй рэдакцыі. Тут, вось, справа іншая». Ён пачаў перакідваць канверты, і ўсмешка яго прыняла кісла-іранічны выгляд.

— Чаго гэта вы смеяцёся? — нездаволена спытала сакратарша.

— А таго, што дарэмна вы ўсё гэта робіце, зусім дарэмна.

— Чаму?

— Таму што ўжо даўно я сам разнёс газету па ўсіх гэтых адрасах.

Сакратарша здзівілася.

— Што-ж цяпер рабіць? Трэба далажыць рэдактару.

— Не трэба! — упэўнена параіў Сёмачкін. — Раз загадана, пасылайце. Няхай таварышы атрымаюць па два экземпляры газеты.

— Дык ужо тут па два ў кожным канверце.

— Нястрашна, няхай атрымаюць па тры. Маслам кашы не сапсуеш.

Сакратарша згадзілася.



Тыдняў праз два Сёмачкіну зноў давялося пабываць у тым калгасе, з якога ён пісаў сваю карэспандэнцыю. Не наўмысля, праўда, ён туды паехаў, а завітаў выпадкова. Да гэтага неяк выпаў з памяці гэты калгас, заглушылі яго іншыя справы, а калі раптам насупраць паказаўся знаёмы будынак фермы, Сёмачкін успомніў пра сваё нядаўняе выступленне. Успомніўшы, паправіў на галаве кепку, зрабіў суровы і незалежны выгляд: зараз павінен паказацца старшыня калгаса або загадчык фермы. Вядома, яны пачнуць непакоіцца, пабягуць насустрач, будуць усяляк апраўдвацца і запэўняць, што крытыка ім дапамагла правільна глянуць на свет, выратавала. Вядома-ж, у кожнага газета ў кішэні, ды не адна тэлеграма зверху.

Каля фермы Сёмачкін замарудзіў крок, выняў з партабака папяросу, закурыў. У двор фермы не глядзеў: заўважаць і так. Падыходзячы да праўлення калгаса, таксама не імкнуўся адразу выяўляць сябе: няхай людзі задрыжаць ад нечаканасці. Прайшоў паўз вокны будынка, потым вярнуўся, прайшоў яшчэ раз. І паступова пачынала з'яўляцца здзіўленне ў самога: ніхто не прыпыніў яго каля фермы, ніхто не выскачыў насустрач з праўлення. Сёмачкін рашыў, што гэта проста недарэчная выпадковасць, і зайшоў у памяшканне сам. Старшыня калгаса стаяў каля бухгалтарскага стала, шырокаю спіною к дзвярам, і слухаў, як бухгалтар чытае газету. На скрып дзвярэй бухгалтар узняў галаву, абыякава, паверх акуляраў, глянуў на Сёмачкіна, а старшыня калгаса нават не азірнуўся.

— Вось гэта крытыка! — задаволена гаварыў старшыня. — Гэта сапраўдная крытыка! І старшыню з пясочкам працёрлі, і загадчыка фермы.

— І памаглі, — дадаў бухгалтар, адарваўшыся ад газеты, — вось тут ніжэй сказана, што трэба рабіць, як ліквідаваць недахопы.

— Адным словам, па-баявому, — захапляўся старшыня, — малайцы! Пасля такой крытыкі, нябось, адразу закасаеш рукавы.

Сёмачкін бадзёра падышоў да стала.

— Добры дзень! — гучна сказаў ён і працягнуў старшыні руку. — Я — Буравеснік. Сёмачкін-Буравеснік.

— Сядайце, — кіўнуў старшыня. — Я зараз.

«Зараз» яго вышла не надта хуткім, Сёмачкіну давялося нямала пачакаць, але старшыня ўсё-ж адарваўся ад бухгалтара і з сумнай пакорлівасцю сказаў:

— Я вас слухаю.

— Нядаўна мы сустракаліся, — адчуўшы крыўду і раздражненне, рашыў напомніць Сёмачкін.

— Ага, сустракаліся? — Прыкрыты пасівелаю чупрынаю, лоб старшыні зморшчыўся. — Здаецца, успамінаю, успамінаю.. Дзе-ж гэта мы сустракаліся? На абласной нарадзе па торфаперагнойных гаршочках?

— Быў я ў вас нядаўна!

— Ага, былі? Тады ясна, ясна... У нас, бачыце, многія бываюць. Выбачайце, а чаго гэта вы былі ў нас?

— Таго, што я карэспандэнт газеты! — ледзь не з крыкам адказаў Сёмачкін. — Спецыяльны карэспандэнт! Пра вашу ферму пісаў.

— Пра ферму? Ну, тады зусім ясна.., А ў якой гэта газеце, прабачце, вы пісалі? — Старшыня хітравата глянуў на бухгалтара.

— Дык гэта, мабыць, тут, — з прыхаванай усмешкай сказаў бухгалтар і дастаў з шуфляды другую газету. — Яна, праўда, нядаўна прышла сюды, але мы чыталі ўжо, чыталі... Тут пра Івана Іванавіча напісана... Чытаеш спачатку: Іван Іванавіч — дрэнны чалавек. Чытаеш далей: Іван Іванавіч — добры чалавек. Пра нашу ферму тут амаль нічога і не сказана.

Сёмачкін абурана махнуў рукой, устаў і вышаў з праўлення. Ля варот фермы яго сустрэў стары вартаўнік з пустымі вёдрамі ў доўгіх, сухіх руках. Больш нікога не відно было ні на двары, ні ў самой ферме.

— Дзе-ж людзі? — з роспачу запытаў Сёмачкін.

Здзіўленне яго расло.

— Якія людзі?

— Ну, вашы, з фермы!

Вартаўнік развёў рукамі, а калі стульваў, бляшаныя вёдры выцяліся адно аб другое і зазвінелі.

— Нейкую гульню спраўляе загадчык фермы, — са скаргай у голасе сказаў ён, — нібы радзіны, нібы хрысціны, дык усе яны там. А вы адкуль будзеце, хлопча, з раёна?

— Не, я з самага цэнтра!..

Сёмачкін не ведаў, пра што далей пытацца, што далей рабіць. Яго абурэнню не было меры.

# ВЯЛІКАЕ СВЯТА БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ

**З 11 па 21 лютага ў сталіцы нашай Радзімы — Маскве адбывалася дэкада беларускага мастацтва і літаратуры. Гэта была яркая, хвалюючая дэманстрацыя найвялікшых дасягненняў нацыянальнай па форме і сацыялістычнай па зместу культуры беларускага народа**

**Першы спектакль тэатра оперы і балета — опера беларускага кампазітара Е. Цікоцкага «Дзяўчына з Палесся», — на якім прысутнічалі кіраўнікі партыі і савецкага ўрада, прайшоў з вялікім поспехам.**

**Драматычныя тэатры імя Янкі Купалы і імя Якуба Коласа паказалі свае лепшыя спектаклі «Канстанцін Заслонаў» і «Паўлінка», «Несцерка» і «Раскіданае гняздо».**

**Яркае, самабытнае майстэрства песні паказалі масквічам Беларускі дзяржаўны хор пад кіраўніцтвам народнага артыста СССР Р. Шырмы і Беларускі народны хор пад кіраўніцтвам заслужанага дзеяча мастацтваў БССР Г. Цітовіча, Маладзечанскі ансамбль песні і пляскі, самадзейны танцавальны калектыў Гомельскага клуба чыгуначнікаў імя Леніна пад кіраўніцтвам заслужанага дзеяча мастацтваў БССР А. Рыбальчанкі і харавы калектыў калгаснікаў Тураўскага раёна Гомельскай вобласці.**

**Літаратурная частка дэкады адкрылася ў зале імя Чайкоўскага выступленнем паэтаў Петруся Броўкі, Пятра Глебкі, Кандрата Крапівы, Максіма Танка, Пімена Панчанкі, Аляксея Зарыцкага, Кастуся Кірэенкі.**

**На працягу чатырох дзён у Саюзе савецкіх пісьменнікаў СССР адбывалася абмеркаванне твораў беларускіх пісьменнікаў.**

**Дэкада беларускага мастацтва і літаратуры паказала высокі ўзровень сацыялістычнай па зместу і нацыянальнай па форме культуры беларускага народа, які пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі ў брацкай садружнасці з вялікім рускім народам і ўсімі савецкімі народамі будуе сваё светлае жыццё.**

